— Каго любіш?
— Люблю Беларусь!



ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ
ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

18 КАСТРЫЧНІКА 1996 г. № 42 (3866) Кошт 2 500 руб.





*Ці выведзе куды урэшце шлях?*
*Ці доўга нам таптацца без кірунку?*
*Нам рукі адарвалі нашы клункі,*
*І так далёка — воля і працяг.*

*Фота Г. ЖЫНКОВА*

### ПАЧАЛАСЯ ПАДПІСКА!

*Дарагія чытачы, ідзе падпіска на першае паўгоддзе 1997 года. Калі хто не ў стане выпісаць "ЛіМ" адразу на 6 месяцаў, падпішыцеся на квартал, а то і на месяц. Зрабіць гэта можна ў любым паштовым аддзяленні.*

*Кошт падпіскі на "ЛіМ" на адзін месяц **10000 рублёў**, на квартал — **30000 рублёў**, на паўгоддзе — **60000 рублёў**.*

**Індэкс — ранейшы: 63856.**

# І СХОД НЕ ПАДТРЫМАЎ

***Перадгісторыя заўчарашняга пісьменніцкага сходу ўсім вядомая: прапанова Дзяржкавыда па аб'яднанні трох выданняў на аснове "ЛіМа", нязгода на такое аб'яднанне прэзідыума рады Саюза пісьменнікаў і вось нарэшце апеляцыя да пісьменніцкай грамады: як вырашыць яна?***

А. Вярцінскі, прызначаны дакладчыкам, зазначыў, што пытанне трэба разглядаць у кантэксце той грамадска-палітычнай сітуацыі, якая на сёння склалася. Калі коратка ахарактарызаваць яе, то гэта супрацьстаянне эканамічным рэформам і нацыянальнаму адраджэнню. Беларусь стала не то "Юдавым полем" (М. Багдановіч), не то "геапалітычным жартам", дзе кіруюць бязродныя палкоўнікі.

Пра істотныя, важныя для ўсіх нас рэчы, у тым ліку пра лёс газет, гаварылі таксама А. Лойка, В. Тарас, С.Законнікаў, У.Навумовіч, С.Грахоўскі, Я. Брыль і інш. Адзначаны быў "гвалтоўны наступ на інтэлігенцыю і дэмакратыю" як праява неабальшавізму; прагучаў заклік "перастаць хавацца за спіны нашых дзяцей". Пазіцыя літаратараў павінна быць і разумнай, і рашучай, і ўзважанай, бо пад выглядам эканоміі сродкаў нам прапаноўваюць "узбуйненне калгаса" і стварэнне паслухмянага "сіямскага блізнюка". Чаму тады эканомныя ўлады не аб'ядноўваюць рускамоўныя газеты, многія з якіх штодзень плююць на ўсё беларускае?

Прадстаўніца Дзяржкамвыда Л. Ананіч трымалася мужна і спасылалася на скарачэнне фінансавання. Камітэт размяркоўвае тое, што выдзяляецца, і мусіць шукаць выйсця з няпростага становішча. Л. Ананіч лічыць, што да эканамічнай сітуацыі не трэба дапасоўваць палітыку.

Сход падтрымаў рашэнне прэзідыума супраць аб'яднання газет і прыняў тэкст тэлеграмы Кангрэсу ў абарону Канстытуцыі.

*Надзённае*

Сцяпан СІНІЦА

## СПОВЕДЗЬ

**Я эканомлю на газетах —**
**На інфармацыі, чытай.**
**(Хай будзе сорамна за гэта**
**Таму, хто абяцаў нам рай).**

**Я эканомлю на талонах**
**І ў трамваі з нейкіх пор**
**Кашуся вокам падазрона**
**На мужыкоў**
**(мо кантралёр?).**

**Я сеў стабільна на дыету,**
**Штаны раз ледзьве не згубіў.**
**(Хай будзе сорамна за гэта**
**Таму,**
**хто многа гаварыў).**

**І хоць падобным стаў на мошчы,**
**Ды памятаю слова "не".**
**І калі выйду я на плошчу —**
**Улады, бойцеся, мяне!**

# ВОБРАЗ МАЦІ ЗАЎСЁДЫ АКТУАЛЬНЫ

14 кастрычніка, у Дзень маці, у Нацыянальным мастацкім музеі адкрылася выстава мастака Аляксея Кузьміча "Свет славянскіх мадоннаў". Хаця ідэя выставы, па прызнанні самога мастака, узнікла спантанна, прымеркаванне яе да Дня маці невыпадковае — эпіцэнтрам творчасці А.Кузьміча з'яўляецца вобраз жанчыны-маці, які трактуецца як вяршыня гармоніі прыроды, увасабленне велічы цывілізацыі.

У адкрыцці выставы прыняў удзел Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка, які павіншаваў мастака з выставаю і паабяцаў паспрыяць, каб работы А. Кузьміча ўбачылі як мага больш людзей, і не толькі ў нашай краіне. Міністр культуры А.Сасноўскі паведаміў, што 22 кастрычніка ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі адкрыецца яшчэ адна экспазіцыя карцін Аляксея Кузьміча, на якой творчасць мастака будзе прадстаўлена шырэй.



*Фота В. ТАЛОЧКІ, БЕЛТА*

# З НАДЗЕЯЙ ЗАВАЯВАЦЬ ПАРЫЖ

Выстава, што адбылася ў галерэі Аркадэ ў г. Сэнт-Эцьен у верасні гэтага года, прадставіла французам творчасць двух вядомых беларускіх мастакоў: жывапіс і габелены Вольгі Дзёмкінай і скульптуру Аляксандра Фінскага. "Хоць тэхніка іх розная, аднак крыніца натхнення агульная, — напісала ў водгуку на выставу газета "La Tribuna", — натхненне накіроўваецца да душы, прымушае адчуць хісткасць чалавека ў сусвеце".

Крытыкі заўважылі і адзначылі тонкасць і эмацыянальнасць габеленаў В. Дзёмкінай, якая стварае космас і сусвет, дзе рэальнае і ўяўнае зліваецца ў адзінае і нараджаецца тэма космасу ("Чорная быліна", "Дыялог зорак", "Песня вятроў" і інш.). Бронза А. Фінскага захапіла патаемнасцю, якая надзіва дакладна перадае ўтойваемыя эмоцыі чалавека ("Развітанне", "Чаканне").

Невыпадковае, на мой погляд, прафесійнае і прызнанае майстэрства Аляксандра Фінскага. Але сімвалічна, што на французскай зямлі, якая з'яўляецца пачынальніцай майстэрства габелена, збор тканых фантазій беларускай мастачкі меў велізарны поспех. Наведвальнікі ацанілі і высокі тэхнічны ўзровень габеленаў Дзёмкінай, і пранікнёнасць гучання ў работах самых патаемных струн яе душы. "Славянскім характарам" назваў у кнізе водгукаў адзін з гледачоў меланхолію яе твораў, аздобленую надзеяй, спасылаючыся на адсутнасць такой рысы ў еўрапейскім мастацтве, дзе звыкла гучыць дзеянне.

Добра, што не перашкодзілі ўсе шматлікія складанасці, з якімі быў звязаны так доўга адкладваемы ад'езд выставы ў Францыю, і беларускае мастацтва зноў-такі сцвердзіла сябе на агульнаеўрапейскім узроўні. Таму выстава працягвае свой шлях, яна запрошана і мае надзею "заваяваць" горад мастацтваў — Парыж. Поспехаў ёй.

**Галіна ФАТЫХАВА**

# НАШЫ Ў ФРАНКФУРЦЕ-НА-МАЙНЕ

З 2 па 7 кастрычніка ў Франкфурце-на-Майне праходзіў 48-ы Міжнародны кніжны кірмаш. Гэты прадстаўнічы форум заўсёды карыстаецца вялікай папулярнасцю, але сёлетні год пераўзышоў, можна сказаць, усе чаканні: на кірмашы было прадстаўлена больш чым 9 тысяч выдавецтваў са 105 краін свету. Па традыцыі ў Франкфурце-на-Майне вялі свайго роду рэй выдаўцы буйнейшых дзяржаў, такіх, напрыклад, як Злучаныя Штаты Амерыкі, Італія, Францыя, хоць у многім іх пераўзышлі ірландцы. З Ірландыі лепшыя кнігі паказвалі больш за 35 выдавецтваў. Тым не менш, вялікую цікавасць ва ўдзельнікаў і гасцей кірмашу выклікалі і кнігі з СНД.

Годна пачувалі сябе ў Франкфурце-на-Майне і выдаўцы з нашай дзяржавы. У кірмашы прыняла ўдзел дэлегацыя з 17 чалавек, у склад якой уваходзілі прадстаўнікі, як дзяржаўных, так і недзяржаўных выдавецкіх структур, друкары, тыя, хто мае дачыненне да распаўсюджвання кнігі. Яны прывезлі з сабой больш чым 200 кніг. А ўзначальваў дэлегацыю старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку У. Бельскі.

Вядома, кніжныя кірмашы, асабліва такія аўтарытэтныя, як у Франкфурце-на-Майне, гэта не столькі свята кнігі, хоць і яно, безумоўна, не на апошнім месцы, а работа — карпатлівая, напружаная работа дзеля таго, каб прыняць дзейсныя захады па прапагандзе ўласнай кніжнай прадукцыі і адначасова заключыць выгадныя здзелкі з партнёрамі з іншых краін. А яшчэ — і свайго роду вучоба. Тым больш, што ў замежных кнігавыдаўцоў ёсць (і трэба!) чаму павучыцца.

Таму і былі беларусы ў Франкфурце-на-Майне зусім не гасцямі. Таму і прэс-канферэнцыя старшыні Дзяржкамдруку, што праходзіла ў мінулую пятніцу ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы, насіла дзелавы характар, а тэма яе выходзіла за межы гэтага, несумненна важнага, кніжнага форуму — "Перспектывы развіцця кнігавыдання ў Рэспубліцы Беларусь. Рэарганізацыя выдавецкай дзейнасці", хоць, безумоўна, не былі абыдзены ўвагай і пытанні, звязаныя з работай кірмашу. Пра гэта гаварылі як сам У. Бельскі, так і дырэктар выдавецтва "Народная асвета" І. Лапцёнак, які ў Франкфурце-на-Майне ўзначальваў беларускую экспазіцыю, дырэктары выдавецтваў "Юнацтва" — В. Лукша, "Універсітэцкае" — У. Касько і іншыя.

Як адзначалася, сёння ў сусветнай інфармацыйнай прасторы адбываюцца пэўныя змены, якія, вядома, не маглі не закрануць кнігу. У першу чаргу гэта тычыцца кнігі вучэбнай, рознага роду дапаможнікаў. Пашыраюцца пазіцыі так званай электроннай кнігі, а гэта ці лазерныя дыскі, ці пакеты праграм для персанальных камп'ютэраў. Аднак кніга ёсць кніга і ў яе традыцыйным разуменні яна, канечне ж, будзе жыць яшчэ вельмі доўга. У тым ліку і вучэбная. Прыемна, што на кірмашы была праяўлена значная цікавасць да беларускай экспазіцыі. Свет, як зазначыў У. Касько, пачуў беларускую мову і пераканаўся ў вялікай інтэлектуальнасці беларускай кнігі.

Ішла гаворка і пра канкрэтныя выданні, што мелі шырокі рэзананс. Прынамсі, гэта "Гісторыя Еўропы", якую выдавецтва "Вышэйшая школа" выпусціла сумесна з расійскім выдавецтвам "Просвещение" тыражом 40 тысяч экземпляраў. Калегі з Расіі былі прыцягнуты чыста з камерцыйнага боку, таму што выдаткі для выпуску "Гісторыі Еўропы" вельмі значныя. Толькі за друк Мінская фабрыка каляровага друку запатрабавала 1 мільярд рублёў. Затое атрымалася выданне, якое засведчыла магчымасці беларускіх паліграфістаў і кнігавыдаўцоў.

Увогуле, беларуская кніга да нядаўняга часу на міжнародным рынку трымала моцныя пазіцыі. Аб гэтым расказаў В. Лукша. У не такія яшчэ і далёкія часы "Юнацтва" знаходзілася ў колішнім Савецкім Саюзе на другім месцы (пасля Расіі) па экспарце літаратуры ў замежныя краіны, а на долю самога "Юнацтва" прыпадала 95 працэнтаў экспарту беларускай кнігі. Штогод спецыяльная рэдакцыя выпускала нямала лепшых твораў вядомых беларускіх дзіцячых пісьменнікаў у перакладзе на замежныя мовы. Цяпер час навёрстваць упушчанае. І "Юнацтва" прымае наконт гэтага дзейсныя захады. Прынамсі, у замежных выдаўцоў вялікі попыт маюць кнігі, у якіх прадстаўлены лепшыя ўзоры нашага нацыянальнага фальклору. Шырокі рэзананс атрымала і нядаўняе унікальнае выданне "Казкі дзяцей Беларусі", якое ў хуткім часе будзе перакладзена на некалькі моў.

Канструктыўным, узважаным было выступленне У. Бельскага. Старшыня Дзяржкамдруку РБ, адштурхоўваючыся ад кірмашовых уражанняў, прааналізаваў стан кнігадрукавання ў Беларусі на сённяшні дзень. Выпускам літаратуры цяпер у нас займаюцца 1500 выдавецтваў, выдавецкіх канцэрнаў, груп і г.д., з якіх толькі 10 з'яўляюцца дзяржаўнымі. Зразумела, што ў выпуску сацыяльна значнай літаратуры толькі на апошнія разлічваць нельга. Поспеху можна дабіцца толькі сумеснымі намаганнямі. Аднак без падтрымкі дзяржавы тут не абысціся. І дзяржава ідзе насустрач. Толькі на выпуск падручнікаў, рознай вучэбнай літаратуры ў год было выдзелена каля 600 мільярдаў рублёў. Гэтым не можа пахваліцца ні адна іншая дзяржава з былых рэспублік Савецкага Саюза. Дзейсную падтрымку Дзяржкамдруку ў яго пачынаннях аказвае асабіста прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнка. Падзяліўся Уладзімір Пятровіч і некаторымі планамі адносна выдавецкай дзейнасці. Плануецца стварыць выдавецкі канцэрн, у які ўвойдуць выдаўцы, паліграфісты і кнігагандлёвыя арганізацыі, што будуць працаваць на дзяржаўнай аснове. Увогуле, Дзяржкамдрук плануе ўзяць усю паліграфію пад свой кантроль. Гэта зусім не манаполія, як каму-небудзь можа падацца, а захады, каб правесці цывілізаваную прыватызацыю.

Пытанні распаўсюджвання кнігі знайшлі адлюстраванне ў выступленні дырэктара КП "Белкніга" А. Гурыновіча. Начальнік упраўлення выдавецкай дзейнасці і кніжнага гандлю Дзяржкамдруку РБ В. Жарыкаў акцэнтаваў увагу на тым, што на сённяшнім этапе ўжо нельга разлічваць на тое, што на выпуску кніг можна лёгка зарабіць. Праходзіць час літаратуры сумніцельнай якасці, цяпер неабходна думаць аб тым, каб выпускаць выданні, якія задаволяць узросшыя запатрабаванні чытача.

**Н. К.**

## У РЭДАКЦЫЮ ГАЗЕТЫ "ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА"

Сардэчна ўдзячны ўсім, хто павіншаваў мяне з 50-годдзем. Жадаю ўзаемна і Вам жыццёвай моцы, надзеі на лепшае ў гэты нялёгкі час.

**Сяргей ЗАКОННІКАЎ**

*Варункі*

# НАШЫЯ ЗАДАЧЫ

**Неяк размаўляў я са сваімі старымі знаёмымі. Я ведаў іх яшчэ "зафанацелымі" на беларушчыне студэнтамі, калі сам вучыўся ў аспірантуры. Гаворка зайшла пра нашую беларускамоўнасць, і я паўтарыў агульнавядомую, як мне здавалася, тэзу пра тое, што калі ты хочаш змяніць моўную сітуацыю на Беларусі, дык пачынай найперш з сябе і будзь паслядоўным. Мае суразмоўнікі, і сёння дастаткова актыўныя ў грамадскім жыцці людзі, скептычна рассмяяліся, сказаўшы, што зараз ужо не "талакоўскія" часы. Я быў непрыемна ўражаны і нават крыху прыгаломшаны. А што змянілася, спытаўся я ў сябе. Бясспрэчная, здавалася б, для нас у свой час ісціна, аказваецца, у іх прайшла рэвізію. Мадэрнізацыя адбылася не на карысць беларускай мовы.**

**А потым я згадаў іншых нацыянальна свядомых хлапцоў і дзяўчат з майго пакалення, якія пасля актыўнага ўдзелу ў беларускім маладзёжным руху 80-х, пасля апазіцыйнай партыйнай дзейнасці адышлі ад палітыкі і кінуліся ў бізнес. Я паглядаю на тых, якім удалося узняцца, і з сумам адзначаю, што мала хто з іх захаваў нармальны нацыянальны грунт. Былыя беларускамоўныя фундаменталісты сёння актыўна карыстаюцца рускаю моваю, апраўдваючыся для сябе, мабыць, тым, што гэтага патрабуе іхняе асяроддзе, іхні бізнес. Паверыў бы, калі б не было такіх, якія ўсё ж няўхільна не саступаюць, працуюць у беларускамоўным рэжыме, з энтузіязмам засвойваюць гандлёвую тэрміналогію (згадайма тыя ж кампутары і чакалядкі).**

**І вось пра аднаго распавядаюць мне, што па-беларуску ён цяпер гаворыць толькі на вечарынках сярод бізнесменаў, расчуліўшыся пасля чаркі. А другая, маючы магчымасць выступаць у беларускамоўнай праграме па тэлевізіі, чэша па-руску, толькі зубы паблісквають. Справа, здаецца, усё ж такі ва ўнутраных установках, а яны паплылі.**

**Непакоіць мяне трохі і сённяшняя "залатая" беларуская моладзь. Яны гавораць па-беларуску, для іх гэта нармальна, яны ведаюць, як правіла, замежныя мовы — з'явілася патрэба, не тое, што ў свой час у нас. Але яны лёгка збіваюцца з беларускай на рускую, не лічаць гэта для сябе істотнай прынцыповай рэччу. Для іх — мова — больш інструмент, паказальнік свайго сацыяльна-палітычнага статуса, а не тая самакаштоўнасць, якая абавязкова павінна ляжаць у духоўным падмурку кожнага нармальнага беларуса.**

**"Стомленасць" таго-сяго са старой гвардыі — як спявае А. Мельнікаў, мабыць, усё ж такі не пра сябе: колькі ж можна — мова ды мітынгі, мітынгі ды мова, а таксама "недаспеласць" моладзі, якая прыўзняла галаў у папярэднія гады беларусізацыі і, думалася, што паступова, натуральна яна "даспее", не мусяць збіваць з тропу астатніх.**

**Колькі можна пра адно і тое ж? Столькі — колькі трэба! Хоць усё жыццё!**

***Ты, мой брат,***
***каго зваць беларусам,***
***Роднай мовы сваёй***
***не цурайся, —***

**яшчэ некалі ўгаворваў беларусаў Алесь Гарун. Не надта яны яго паслухалі. Значыць, трэба працягваць. Нашая задача, якія б мы ні былі разумныя, вывучаныя і мудрыя, адна — тлумачыць і даказваць сто, тысячу, дзесяць мільёнаў трыста тысяч разоў элементарныя рэчы: мова — вышэй над усім і не забывацца пра ўласны прыклад.**

**Алесь БЯЛЯЦКІ**

***У шматлікіх публікацыях, прысвечаных вызваленню Беларусі ад нямецкіх захопнікаў, даволі часта згадваецца, але зусім не раскрываецца факт правядзення ў Мінску 27 чэрвеня 1944 года Другога Усебеларускага Кангрэса. Чытачам даводзіцца, што яго арганізавала невялічкая групка варожа настроеных да беларускага народа авантурыстаў, у якіх, акрамя ўласнай кар'еры, празмерных амбіцый, не было аніякіх планаў адносна будучага Дзяржаўнага ўладкавання Беларусі. Сцвярджаецца, што ў час правядзення Кангрэса ўсё рабілася ў незвычайнай спешцы і паніцы і толькі дзеля таго, каб прыняць нейкія пракламацыйныя дакументы. Пры такім неапраўдана павярхоўным падыходзе аўтары свядома пакідаюць чытача, можна сказаць, у поўнай недасведчанасці па такім даволі неардынарным пытанні часоў вайны і акупацыі.***

***Было б памылковым думаць, што аўтар звяртаецца да асвятлення данага пытання з прычыны якіх-небудзь сімпатый да арганізатараў Другога Усебеларускага Кангрэса ці мо з-за таго, што падзяляе прынятыя на ім рашэнні. Адзінае, чым я кіруюся, гэта звярнуць увагу маіх калег-гісторыкаў на неабходнасць больш глыбокага і грунтоўнага асвятлення данай праблемы, а чытачам паказаць, як усё не проста і неадназначна было ў гады вайны і акупацыі. Лічу, што мы вельмі добра вывучылі толькі гераічную барацьбу беларускага народа супроць акупантаў, а вось што датычыць жыцця той часткі яго, што знаходзілася на тэрыторыі, дзе гаспадарылі фашысты, пра гэта людзі незаслужана мала ведаюць.***

Леанід ЛЫЧ

# АПОШНЯЯ АКЦЫЯ КАЛАБАРАНТАЎ

## ДРУГІ УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

Ідэя правядзення Другога Усебеларускага Кангрэса выспела задоўга да 27 чэрвеня 1944 г. Толькі вось нямецкія цывільныя адміністрацыйныя органы, як і ў многіх іншых выпадках, калі размова ішла пра штосьці надзвычай важнае для пэўнай часткі беларусаў, праяўлялі поўную абыякавасць, а не дык і проста не давалі згоды на яго скліканне. Але час ішоў, карэнным чынам мянялася сітуацыя, жыць паводле нормаў учарашняга дня станавілася далей немагчымым. Дзякуючы вялікім намаганням прэзідэнта створанай у снежні 1943 г. Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) прафесара Радаслава Астроўскага[1], гітлераўская адміністрацыя пасля доўгай дыскусіі ўсё ж адважылася на такі крок, што вельмі ўзняла настрой у беларускіх незалежнікаў. Вось як кіраўніцтва БЦР характарызуе свае тагачасныя дзеянні ва ўступе да выдадзенай у 1954 г. у Мюнхене кнігі "Другі Усебеларускі Кангрэс": "Распачаць вайну за незалежнасць на два франты — супроць бальшавікоў і немцаў — раўназначна было б самагубству. Такі крок зрабіць было немагчыма. Бальшавікоў усе добра ведалі і з імі змагаліся, а што да немцаў — дык былі ўпэўнены, што Захад ім рукі звяжа. У той сітуацыі трэба было асягнуць найбольшага і прытым у легальны спосаб".

Другі Усебеларускі Кангрэс праходзіў у вельмі складаны для акупантаў і працаўнікоў іх цывільных адміністрацыйных службаў час. У Мінску з кожным днём усё больш выразна адчувалася, што надыходзяць апошнія дні панавання заваёўнікаў. За дзень да адкрыцця Кангрэса савецкія войскі вызвалілі Віцебск, на наступны дзень — Оршу. Аднак нягледзячы на такое становішча, на Кангрэс з'ехалася 1039 дэлегатаў, што склала 90 працэнтаў той колькасці, якую меркавалася запрасіць. Яны прадстаўлялі ўсю этнічную Беларусь. Прыехалі нават пасланцы са Смаленскай, Чарнігаўскай і Арлоўскай акруг. Самую вялікую колькасць дэлегатаў даў Мінск — 201, затым Баранавіцкая, Мінская і Глыбоцкая акругі — адпаведна 155, 115 і 105 чалавек. Ад замежных беларускіх згуртаванняў прысутнічалі дэлегаты з Варшавы, Рыгі, Ліцмандштата (Лодзі), Кракава, Кёнігсберга, Вены і Берліна. Жанчын было 135. Паводле ўзросту дэлегаты падзяляліся такім чынам: да 22 год — 129 чалавек, да 40 год — 428, да 60 год — 467, звыш 60 — 15; паводле адукацыі: з вышэйшай — 217, сярэдняй — 496, ніжэйшай і пачатковай — 326; паводле прафесіі: настаўнікаў — 276, земляробаў — 245, работнікаў — 142, службоўцаў — 234, лекараў — 20, інжынераў — 31, юрыстаў — 25, журналістаў — 14, аграномаў — 13, розных — 34; паводле веравызнання: праваслаўных — 903, каталікаў — 125, евангелістаў — 4, лютэран — 1, старавераў — 1, магаметан — 1. З пісьменнікаў і публіцыстаў на Кангрэс прыбылі Анішчык-Чэмер, Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш, Х. Ільяшэвіч (загінуў у 1948 г. у эміграцыі), М. Кавыль, У. Клішэвіч, П. Манькоў (арганізатар і супрацоўнік "Газеты Случчыны"), Я. Папко, А. Салавей, А. Сянкевіч (рэдактар "Беларускай газэты" і "Голаса вёскі"), Л. Случанін (Шпакоўскі), Ю. Стукаліч (былы сябра беларускага літаратурнага згуртавання "Узвышша"), У. Сядура, С. Хмара (Сіняк); з вучоных, мастакоў, артыстаў-архітэктараў — доктар філасофіі, паэт і публіцыст Ф. Грышкевіч, дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта І. Жарскі, інжынер-архітэктар І. Касяк, працоўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры А. Клімовіч, дацэнт БДУ, навуковы супрацоўнік Беларускай акадэміі навук, аўтар шэрагу падручнікаў і навуковых прац, у гады акупацыі арганізатар Навуковага аддзела БЦР, дацэнт Я. Кіпель, працаўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры доктар Я. Малецкі, дырэктар Медычнае школы ў Баранавічах М. Мінкевіч, навуковы супрацоўнік і выдавец, аўтар выдадзенай у Мінску ў 1943 г. гістарычнай кнігі "Беларусь учора і сяньня" Я. Найдзюк, навуковы працаўнік Апалонія Савёнак, доктар філасофіі, кіраўнік школьнага аддзела БЦР А. Скурат, доктар філасофіі, навуковы працаўнік Я. Станкевіч, прафесар і рэктар Беларускага медычнага інстытута ў Магілёве і Новай Вілейцы М. Сцяпанаў, дырэктар Дзяржаўнага беларускага тэатра ў Мінску В. Селях, выкладчык Першай Беларускай афіцэрскай школы ў Мінску В. Чабатарэвіч, прафесар Горы-Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, дырэктар Агранамічнай станцыі, прэзідэнт Беларускага Навуковага Таварыства Шапэрка, дырэктар Беларускага музея ў Мінску А. Шукелайць, кампазітар, аўтар шэрагу беларускіх опер, навуковец-музыказнаўца М. Шчаглоў, супрацоўніца навуковай групы для апрацоўкі падручніка гісторыі Беларусі для сярэдніх школ, працаўніца Аддзела культуры БЦР у Мінску В. Юшкевіч; з вядомых палітычных і ваенных дзеячаў — прэзідэнт БЦР, прафесар Р. Астроўскі, сябра прэзідыума Рады БНР К. Езавітаў, былы ўрадовец народнага камісарыята асветы БССР, а ў гады акупацыі кіраўнік аддзела культуры БЦР А. Калубовіч, былы кіраўнік спраў СНК БССР, сябра БЦР С. Кандыбовіч, камандуючы Беларускай краёвай абаронай, палкоўнік Ф. Кушэль, былы пасол і санатар польскага Сойма і Сената В. Рагуля, старшыня ЦК Беларускай незалежніцкай партыі У. Родзька, былы сябра ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады, віцэ-прэзідэнт БЦР Ю. Сабалеўскі, камандуючы Слуцкай дывізіяй у час Слуцкага паўстання супраць бальшавікоў у 1920 г. Сокал-Кутылоўскі, віцэ-прэзідэнт БЦР М. Шкялёнак; са служыцеляў культу — протаіерэй, настаяцель мінскага кафедральнага Сабора Я. Балай, прасвітэр баптыстаў Дзекуць-Малей, протаіерэй, сябра Мітрапалітнае ўправы Беларускай Праваслаўнай Аўтакефальнай Царквы М. Лапіцкі, ксёндз, доктар багаслоўя П. Татарыновіч, архіепіскап Магілёўскі і Мсціслаўскі, заступнік мітрапаліта ўсяе Беларусі, старшыня Аўтакефальнага Сабора Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Мінску ў 1942 г. Філафей (Нарко). Сярод данай катэгорыі духоўнай інтэлігенцыі былі асобы, якія бралі актыўны ўдзел у арганізацыі царкоўна-рэлігійнага жыцця ў акупаванай Беларусі ці ўваходзілі ў якасці сталых сяброў у такога роду структуры. Гэта ўдзельнікі Аўтакефальнага Сабора Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Мінску ў 1942 г. І. Касяк, Д. Касмовіч і З. Ясюк (ён жа і кіраўнік Стаўбцоўскага раёна), сябры прадсаборнай камісіі і Аўтакефальнага Сабора Беларускай Праваслаўнай Царквы ў Мінску ў 1942 г. А Арэхва і П. Свірыд. Прысутнічалі на Кангрэсе і тыя, хто браў удзел у працы Першага Усебеларускага Кангрэса ў Мінску ў снежні 1917 г.: Р. Астроўскі, А. Будзька, К. Езавітаў, М. Шыла, Ф. Ярэміч.

Як бачым, якіх-небудзь прэтэнзій да жыццёвага вопыту, адукацыйнага ўзроўню, службовага становішча, прафесіі тых, хто з'ехаўся ў тую часіну ў Мінск для вырашэння зусім нерадавой праблемы, не гэтак і проста выставіць. А вось якую характарыстыку даў ім незабыты яшчэ і пасёння колішні чэкіст N 1 Беларусі Лаўрэнцій Цанава: "Гэта быў "усебеларускі кангрэс" без Беларусі, палітычная фікцыя, прыдуманая супраць беларускага народа, гэта быў сапраўдны зброд самазванцаў, якія атрымліваюць нямецкія пайкі, ахоўваюцца гітлераўскай зброяй, зброд катаў, якія прысягалі на вернасць Гітлеру і масавымі забойствамі сваіх суайчыннікаў здабылі сабе прыхільнасць прыгнятальнікаў сваёй радзімы. Ні за аднаго дэлегата не прагаласаваў ніводзін беларус. Усе яны былі прызначаныя гітлераўскімі стаўленікамі з ліку начальнікаў паліцыі, карных атрадаў, турэмшчыкаў, завадатараў "БНС" (Беларускай народнай самапомачы — **Л. Л.**), "СМБ" (Саюза моладзі Беларусі. — **Л. Л.**), "Культурнага аб'яднання" і іншых шпіёнскіх арганізацый, створаных гітлераўцамі з белаэмігрантаў, памешчыкаў, кулакоў і злачыннага элемента".

Галоўнымі пытаннямі Другога Усебеларускага Кангрэса было прызнанне несапраўднымі пастаноў урадаў СССР і былой Польшчы, якія датычаць Беларусі, яе тэрыторыі і народа, аб'яўленне Беларускай Цэнтральнай Рады адзіным правамоцным прадстаўніцтвам беларускага народа.

Правядзенне Кангрэса нічым не адрознівалася ад арганізацыі папярэдніх падобнага роду мерапрыемстваў. Трафарэтная тэлеграма на імя Адольфа Гітлера, якіх нямала выслалі яму з Беларусі за перыяд акупацыі. Відаць, каб сярод арганізатараў Кангрэса панавала паніка, яны адразу прыступілі б да разгляду запланаваных пытанняў, пры гэтым асабліва не захоўваючы ўсемагчымых працэдур. Не, такой паспешлівасці не назіралася ад самага пачатку і да канца працы Кангрэса. Яго ўрачыста адкрылі, выбралі прэзідыум, прэзідэнта Кангрэса Яўхіма Кіпеля, даўшы яму першаму слова. Яго выступленне было кароткае, але досыць прадуманае.

На час правядзення Другога Усебеларускага Кангрэса ні для каго з яго ўдзельнікаў не з'яўлялася сакрэтам, што надышлі апошнія дні панавання фашысцкага рэжыму на Беларусі, што сюды неўзабаве вернуцца бальшавікі, чаго зусім не жадала кіраўніцтва БЦР. Гэтаксама не жадала яно і ўмяшання ў беларускую справу польскіх паноў. У тагачаснай складанай сітуацыі, гаварыў на пасяджэнні Кангрэса яго прэзідэнт Я. Кіпель: "Мы мусім самі ўзяцца за будаўніцтва свае будучыні". Прамоўца выказаў гнеў, што "ад нашага імя дазваляюць сабе гаварыць крамлёўскія заправілы", што "яны там вызначаюць апекуноў, якія ўжо рыхтуюць шыбеніцы нашаму народу".

Цалкам абвергнуць сказанае ім ніяк не даводзіцца, бо і сапраўды ледзь не ўсё самае важнае для Беларусі вырашалі ў Крамлі, у т. л. і характар пакарання тых, хто супрацоўнічаў з акупантамі. Затое вельмі ўжо наіўным, паводле сваёй ажыццявімасці, з'яўляюцца наступныя словы з прамовы Я. Кіпеля: "Я заклікаю ўсіх вас і кожнага паасобку да актыўнага ўдзелу ў развязанні ўсіх тых задач, што перад намі паўсталі. Пры добрай волі і шчырым жаданні мы зможам вынесці такія рашэнні, якія дапамогуць нашаму народу выйсці з гора і нядолі на вольны шлях, які прывядзе да светлае будучыні". Ні "добрай волі", ні "шчырага жадання" ўжо было недастаткова, каб штосьці змяніць у лёсе Беларусі, куды магутнай лавінай рухалася Чырвоная Армія і адразу ж аднаўляліся даваенныя савецкія парадкі. Я. Кіпель тут яўна пераацэньваў магчымасці Беларускай Цэнтральнай Рады і блізкіх да яе арганізацый.

Не заўсёды ў ладах з ісцінай быў прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі, які следам за Я. Кіпелем выступіў на Кангрэсе. Ён зрабіў грунтоўную справаздачу аб дзейнасці гэтага органа ўлады. Але не думаецца, што ўсе ўдзельнікі гэтага форуму пагаджаліся са словамі Р. Астроўскага, што за ажыццяўленне ідэй акта БНР ад 25 сакавіка 1918 года "сёння ўжо змагаюцца не адзінкі, не групы ці паасобныя партыі, а літаральна ўвесь беларускі народ", што "з кожным днём усё большыя і большыя сілы прымаюць удзел у змаганні з насланымі на наш край сталінскімі бандытамі і партызанамі, абдуранымі камуністычнаю прапагандаю", бо, наадварот, з кожным днём змяншалася падначаленая акупацыйным уладам тэрыторыя Беларусі, многія з тых, хто служыў ім, кінуліся наўцёкі. Нельга не заўважыць перабольшання, калі Р. Астроўскі гаварыў, што паступленне моладзі ў Беларускую Краёвую Абарону (БКА) "паказала нам нацыянальную даспеласць нашага народа і высокае яго пачуццё да спаўнення сваіх абавязкаў перад Бацькаўшчынай", бо вядомы выпадкі, калі папаўненне БКА адбывалася зусім не паводле прынцыпу добраахвотнасці. Моцна перабольшаны ім і баявы дух стральцоў БКА. Што рабілася дзеля яго далейшага павышэння, прэзідэнт БЦР не забыўся паведаць прысутным: "Агулам кажучы, жаўнер беларускі вельмі добры, але камандны склад вымагае яшчэ вялікае апрацоўкі і падрыхтоўкі... ужо праведзена двое курсаў перападрыхтоўкі афіцэраў і падафіцэраў, а з 15 чэрвеня (1944 г. — **Л. Л.**) арганізавана афіцэрская школа ў Менску для нашых юнакоў з сярэдніх і іншых школ. Роўналежна з гэтым у некальніх акругах у хуткіх часе будуць арганізаваны школьныя батальёны, якія павінны даць адпаведны падафіцэрскі склад".

Са сказанага напрошваецца выснова, што калі б савецкія войскі не так хутка рухаліся на захад у час летняга наступлення 1944 г., братазабойная вайна на Беларусі магла б набыць яшчэ больш сур'ёзны характар.

Не шкадаваў часу Р. Астроўскі, калі прыступіў да паказу, што БЦР было зроблена ў галінах школьніцтва і адукацыі, культуры і навукі. Дарэчы, на гэтых дзялянках жыцця і сапраўды меліся пэўныя поспехі. І тут няма чаго здзіўляцца, бо ў любых, нават самых экстрэмальных умовах не можа прыпыняцца дзейнасць людзей у гэтых важных сферах. Так, 6 лютага 1944 г. было закладзена Беларускае культурнае згуртаванне, асноўнай функцыяй якога з'яўлялася цэнтралізаванае кіраўніцтва тэатрамі, музеямі, бібліятэкамі, народнымі дамамі і іншымі ўстановамі культуры. У тым годзе ў дадатак да ўжо адчыненага Менскага беларускага тэатра ішла падрыхтоўка да закладкі акруговых прафесійных тэатраў у Баранавічах, Наваградку і Слуцку. Артысты Менскага беларускага тэатра рэгулярна гастралявалі ў населеных пунктах Менскай, Баранавіцкай, Вілейскай і Глыбоцкай акруг. Акрамя тэатра, у Менску працавалі сярэдняя музычная школа, драматычныя і музычныя курсы, духавыя, смычковыя аркестры. У Менску і іншых гарадах рэгулярна практыкавалася арганізацыя выставак твораў беларускіх мастакоў. Гэтага, зразумела, Р. Астроўскі не мог не сказаць дэлегатам.

Адпаведную ўмовам часу актыўнасць праяўлялі беларускія празаікі і паэты, на чым пажадаў спыніцца вышэйназваны прамоўца. Яны ладзілі, прычым не толькі ў Менскай, але і ў Слуцкай, Баранавіцкай акругах, вечары беларускай паэзіі і прозы. Штотыдня радыёстанцыі Менска і Баранавіч выходзілі ў эфір амаль з 50-ю музычна-літаратурнымі і іншымі перадачамі. У розныя гады акупацыі выйшлі з друку зборнікі вершаў Н. Арсенневай "Сягоння", "Тодара Лебяды — "Песні выгнання", Л. Случаніна — паэма "Рагнеда", слуцкіх паэтаў — "Песняры Случчыны", зроблена шмат перакладаў найбольш вядомых твораў зарубежнай літаратуры, адноўлена выданне зачыненага ў 1931 г. бальшавікамі літаратурна-мастацкага часопіса "Узвышша".

Да таго, як распачаць у Мінску Другі Усебеларускі Кангрэс, беларускія кампазітары паспелі напісаць і ўключыць у рэпертуар больш за 60 новых твораў, з якіх найбольш значным з'яўляўся балет у "Лясным гушчары" А. Туранкова. У стадыі завяршэння знаходзілася праца кампазітара М. Шчаглова над аперэтаю "З выраю" (лібрэта Н. Арсенневай), М. Равенскага — над аперэтай "Залёты" (на лібрэта Дуніна-Марцінкевіча), М. Іванова — над дзіцячай операй "Мухамор", Р. Самохіна — над сімфанічнай паэмай. У друку знаходзіліся "Зборнік дзіцячых беларускіх песень і гульняў", "Зборнік патрыятычных беларускіх песень" і інш.

Р. Астроўскі паведаміў прысутным, што супрацоўнікі Навуковага аддзела БЦР за час яго існавання склалі больш за два дзесяткі падручнікаў для пачатковых і сярэдніх школ, беларуска-нямецкі тэхнічны слоўнік, перагледзелі і часткова распрацавалі тэрміналогію па гісторыі, псіхалогіі, фізіцы, хіміі і іншых прадметах, рэгулярна выступалі ў друку па праблемах эканомікі і філасофіі, па нацыянальным пытанні.

У 1944-45 г.г. БЦР планавала адкрыць Інжынерна-металургічны інстытут, Юрыдычна-адміністрацыйную акадэмію, Ветэрынарны інстытут і Гуманістычны факультэт Педагагічнага інстытута. Толькі за перыяд з 1 снежня 1943 г. па 20 чэрвеня 1944 г. Беларуская Самапомач выдала Беларускаму медыцынскаму інстытуту ў Нова-Вілейцы грашовай дапамогі на 470 тыс. руб., у т.л. на выплату стыпендый — 145 тыс., на набыццё абутку — 185 тыс. руб.

Нельга не здзіўляцца, але шмат хто з педагогаў па-сапраўднаму верыў, што створаныя з дазволу акупантаў навучальныя ўстановы

*(Працяг на стар. 14-15)*

*[1]Родам са Случчыны (1887—1976). За ўдзел у рэвалюцыі 1905—1907 гг. выключаны са Слуцкай гімназіі. У лютым 1911 г. асудзілі за рэвалюцыйную дзейнасць і пасадзілі ў Пецярбургскую турму. Меў вышэйшую адукацыю, у 1915—1917 гг. выкладаў у Мінскім настаўніцкім інстытуце, у верасні 1917 г. стаў першым дырэктарам беларускай гімназіі ў Слуцку, дэлегат Усебеларускага з'езда ў Мінску (снежань 1917 г.), удзельнік Слуцкага паўстання (1920г.), дырэктар Віленскай беларускай гімназіі (1924—1936 гг.), супрацоўнічаў з ЦК КП(б)Б і КПЗБ, віцэ-старшыня ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады, старшыня Таварыства беларускай школы. У час нямецкай акупацыі з'яўляўся бургамістрам Смаленска, Бранска, Магілёва, у снежні 1943 г. стаў прэзідэнтам Беларускай Цэнтральнай Рады.*

## ПАЭТЫЧНЫ ГОЛАС СУМЛЕННЯ

**Так называецца кніжная выстава, прысвечаная 65-годдзю народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча і 50-годдзю пачатку яго творчай дзейнасці, што працуе ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Безумоўна, калі б усё, напісанае Нілам Сымонавічам, сабраць разам, дык наўрад ці хапіла б выставачных стэлажоў. Як вядома, толькі колькасць паэтычных кніг у Н. Гілевіча набліжаецца да 50! А да ўсяго ім перакладзена 16 кніг паэзіі і прозы, на яго мастакоўскім рахунку — 13 кніг па літаратуразнаўстве і фалькларыстыцы, 7 кніг эсэістыкі і публіцыстыкі. Але і тое, што прадстаўлена ў экспазіцыі, яскрава сведчыць, што ў асобе Н. Гілевіча беларуская сучасная літаратура мае не проста выдатнага творцу, а мастака слова, які надзіва плённа і актыўна парцуе ў імя нацыянальнага Адраджэння. Аб гэтым, у прыватнасці, сведчаць выступленні Н. Гілевіча ў перыядычным друку, асобныя з якіх таксама прадстаўлены на выставе.**

## ГІСТОРЫЯ КРАЮ



**Краязнаўчы музей, які ўжо дзесяць гадоў як створаны ў Псышчаўскай сярэдняй школе Іванаўскага раёна, стаў для навучэнцаў і педагогаў яшчэ адным класам. Тут дзеці вывучаюць гісторыю роднага палескага краю.**

*На здымку: выхавацель групы падоўжанага дня Галіна Сцяпанаўна Балюк з дзецьмі з малодшых класаў у школьным музеі.*

*Фота Эдуарда КАБЯКА, БЕЛТА*

## ПАКІНУЎ МЕМУАРЫ

**Максіміліян Маркс спалучаў у сваёй асобе мемуарыста, даследчыка Сібіры і актыўнага ўдзельніка рэвалюцыйнага руху 60-х гадоў мінулага стагоддзя. А нарадзіўся ён 19 кастрычніка 1816 года (памёр у 1893 годзе) у Віцебску. Пасля заканчэння Віцебскай гімназіі вучыўся ў Маскоўскім універсітэце, выкладаў у гімназіях Смаленска і Масквы. У 1866 годзе за ўдзел у польскім рэвалюцыйным руху быў сасланы ў Сібір на пажыццёвае пасяленне. З 1868 года жыў у Енісейску, дзе заснаваў І-ую сібірскую метэастанцыю. У часопісе "Русская старина" апублікаваў нататкі пра К. Касовіча, М. Буташэвіча-Петрашэўскага, у "Записках Академии наук" выступіў з працай "Клімат Енісейска паводле 12-гадовых назіранняў". У бібліятэцы Акадэміі навук Украіны (Львоў) захоўваецца рукапіс успамінаў М. Маркса "Запіскі старога", у якіх знайшлося месца і ўзнаўленню жыцця Віцебска ў 1820—1830 гадах. Прыведзены таксама беларускія фальклорныя матэрыялы, урыўкі з "Энеіды навыварат", звесткі пра цікаўнасць да беларускага фальклору Э. Плятэр. Застаўся пасля М. Маркса і рукапісны зборнік вершаў, напісаных па-польску, ён захоўваецца ў бібліятэцы імя Асалінскіх у Вроцлаве.**

## "РОДНАЕ СЛОВА" АРГАНІЗОЎВАЕ...

**Бюро прапаганды ("Роднае слова") Саюза беларускіх пісьменнікаў арганізоўвае па ўсіх рэгіёнах Беларусі выступленні:**

**1. Літаратурныя сустрэчы.**

**2. Літаратурна-музычныя кампазіцыі, канцэрты.**

**3. Забаўляльна-абрадавыя выступленні.**

**4. Сустрэчы з прадстаўнікамі рэдакцый часопісаў, газет, выдавецтваў.**

**5. Тэматычныя выступленні (гісторыкі, мовазнаўцы, літаратуразнаўцы, крытыкі, мастакі, этнографы, фальклярысты).**

**6. Сустрэчы з супрацоўнікамі Дома радыё.**

*Звяртацца код Мінска 8-0172. тэл. 236-29-70 (з 9 гадзін да 14) і па тэл. 36-50-69.*

***Сёння на старонках "ЛіМа", адведзеных пад літаратурную крытыку, — матэрыялы на тэму досыць балючую і нераскрывальную ў прынцыпе — літаратурная адукацыя, што гэта такое, якой яна мусіць быць увогуле і ў кантэксце беларускай культуры. Прапануем два меркаванні па гэтым пытанні — Алеся Лапаты-Загорскага, навуковага супрацоўніка Інстытута літаратуры, і Людмілы Рублеўскай, рэдактара аддзела крытыкі "ЛіМа".***

# "ФІЛАЛАГІЧНАЕ ПАКАЛЕННЕ"

Беларуская крытыка 70-х гадоў слушна адзначала ў "маладых" — тых, каму зараз па 50—60 год — своеасаблівую "хваробу росту"; маўляў, "яны глядзяць на свет пераважна праз акно, прасечанае пакаленнем пісьменнікаў, якое прыйшло ў літаратуру ў канцы 50-х і пачатку 60-х гадоў". Побач, як адасобленыя адна ад другой, падаваліся і наступныя заўвагі: "маладыя" не прымаюць творчай вучобы, і робяць яны гэта дэманстратыўна, востра адказваючы ў друку нават на слушныя заўвагі; марудна ідзе сталенне маладых — яны нібы прабуксоўваюць на месцы пасля несумненнага і шматабяцальнага поспеху першай кнігі; творы цэлага пакалення характарызуюцца прыкметнай жанравай і стылёвай уніфікаванасцю, аднастайнасцю; многія больш-менш вопытныя празаікі імкнуцца да залішняй дэталізацыі — хаця ў дэбютных творах за тым жа аўтарам дадзеная схільнасць назіралася не заўсёды.

Такія назіранні па форме — несумненная канстатацыя. Гаворку ж неабходна весці пра спецыфіку сістэмы падрыхтоўкі літаратурных кадраў у рэспубліцы, пра тое, што практычных навыкаў малады пісьменнік падчас вучобы ў ВНУ не набывае. Гэта непазбежна павінна было праявіцца (і праявілася) у сітуацыі, калі старэйшае літаратурнае пакаленне амаль цалкам адсутнічала. Яно ж выбіта было ў нас, а трагедыя трыццаць сёмага бумерангам ударыла па дэбютантах 60-х гадоў. Неабходна ўлічваць гэты фактар, без якога крамольная думка, нібы можна беспакарана вынішчыць цэлы пласт культуры, не-не, але будзе вяртацца ў неспакойныя галовы.

Адразу трэба агаварыцца, што гаворка ў артыкуле ідзе не толькі пра так званае "філалагічнае пакаленне". У той ці іншай ступені адзначаныя тэндэнцыі можна аднесці практычна да кожнага, хто дэбютаваў у літаратуры ў тыя гады. Іншая справа, што філалагічная адукацыя надавала якасць экстракту, выцяжкі адзначаным асаблівасцям. Яна часткова "прыбірала" дадатковыя фактары (напрыклад, утрымлівала пачаткоўца ад спроб непасрэднага пераймання прыёмаў і навыкаў, падгледжаных у творах майстроў сусветнай літаратуры — у дэбютантаў-нефілолагаў такой "прывіўкі" не было, імі нярэдка выкарыстоўваліся ў першых творах гатовыя кампазіцыйныя блокі, што і дазваляе лёгка рабіць супастаўленні тыпу Рэмарк — Быкаў, Фолкнер — Гігевіч) і вызначала імкненнеісці да мэты аднолькавымі альбо вельмі блізкімі шляхамі. Тут няма нічога дзіўнага, бо філолагі ж аднолькава ўсведамлялі (іх вучылі гэтаму!), што ў літаратуры з'яўляецца дапушчальным, а што не, якія прыёмы павінны прыносіць поспех...

Вельмі паказальным у дадзеным сэнсе бачыцца імкненне да дэталізацыі. К. Чорны сцвердзіў перспектыўнасць выкарыстання прыёму падрабязнага, засяроджанага разгортвання апавядання ў беларускай прозе (факт праграмны!). Відавочна апрыёрнае імкненне многіх выпускнікоў філфакаў паспрабаваць насыціць свае творы красамоўнай атрыбутыкай. А яна напачатку не давалася, асабліва калі адначасова аўтар спрабаваў падтрымліваць дынамічнасць змены дэкарацый. У замалёўках дэталі былі, а ў апавяданнях неяк не выпісваліся. Але як толькі фон станавіўся падуладным аўтару, той, нібы ў імкненні кампенсаваць усю атрыбутыўную недададзенасць папярэдніх твораў, шчыраваў і шчыраваў над дэталізаванасцю бачання. Аж залішне. За прыкладамі далёка хадзіць не трэба — дастаткова прыгадаць фонавую перанасычанасць сталых твораў І. Пташнікава, Г. Далідовіча, І. Чыгрынава...

У тым, што справа тут найперш у недахопе ў дэбютантаў практычных навыкаў, сумненняў няма. Але напачатку хацелася б акрэсліць сітуацыю ў цэлым. Неафіцыйна абойму пісьменнікаў, што дэбютавалі ў літаратуры ў 50—60-х гг., хутка сталі вызначаць як "філалагічнае пакаленне". Фармальнай перадумовай для гэтага найперш была неаспрэчная адукацыйная уніфікаванасць — у пераважнай большасці маладыя літаратурныя кадры каваліся тады на факультэтах філалогіі і журналістыкі БДУ, на філфаках педінстытутаў. Адзінства пройдзенай у юнацтве літаратурнай школы абавязкова павінна было праявіцца пазней, і паступова сапраўды пачынала праступаць ужо іншая аснова прыпадабнення — нейкая вельмі шырокая еднасць, універсальнасць глыбіннай сутнасці многіх твораў, чым параджалася дзіўнае адчуванне іх прычэсанасці, прыгладжанасці на адзін манер. Пра якое "агульнае" ў падрыхтоўцы можа ісці гаворка?

Недзе на другім ці трэцім курсе студэнты нашых філфакаў даведваліся пра існаванне ў Маскве літаратурнага інстытута. Натуральна, што тых, хто ўсведамляў сябе ў будучым толькі творцам, адразу загараліся ідэяй туды перавесціся. У дэканатах, аднак, падобныя спробы адмяталіся з парога: усё не так проста, патрабуецца мора дакументаў неўстаноўленай формы (неўстаноўленай, бо саміх прэцэдэнтаў у выніку ўдалых угавораў папярэднікаў не бывала). Асабліва ўпартых запэўнівалі, што любы часопіс ці выдавецтва Беларусі на працу прымаюць і з філалагічным дыпломам. Думка падмацоўвалася звычайна наступным аргументам: "У той інстытут чаму філолагаў не бяруць? Бо лічаць, што нашы адукацыя і падрыхтоўка і так дазваляюць займацца літаратурай. Непасрэдна ж творчасці не навучыш!"

Гучала пераканаўча, і студэнт заставаўся. Гэта быў наш, беларускі студэнт, які з дэканатам не спрачаецца. Толькі мара пра літінстытут не-не ды вярталася да яго невыразнымі летуценнямі і здагадкамі, што пісьменнікаў, відаць, павінны "там" рыхтаваць хаця б крышачку не так, як настаўнікаў мовы і літаратуры. Даваць спецыфічных практычных навыкаў болей, ці што. Зусім жа розныя гэта прафесіі — выкладчык і літаратар-творца.

Не трэба думаць, што мастацтва не патрабуе такой жа вучобы, авалодвання менавіта тэхнікай, можна нават сказаць — сакрэтамі рамесніцтва. Палёты балерын адшліфаваны гадзінамі статыкі класічных пазіцый ля станка, дакладнасць эскізных ліній мастака могуць гарантаваць толькі горы паперы, скрэмзанай накідамі антычных ваз. Пра спевака ці музыканта і гаварыць няма чаго — калі вам выпала шчасце быць суседам каго-небудзь з іх па кватэры, грунтоўнасць перыяду вучнёўства вы мелі магчымасць ацаніць асабіста. Толькі карпатлівасць узыходжання па прыступках, на кожнай з якіх дадаюцца ўсё больш складаныя тэхнічныя навыкі, забяспечвае прафесіяналізм. У падрыхтоўцы сапраўднага майстра адсутнічаюць прагалы. Паварoцці з эстраднымі спевакамі спаборнічаць не стане, але сумненняў у тым, што ён здольны на гэта, не ўзнікае. На нейкім этапе вялікі тэнар засвойваў і спецыфіку эстраднага вакалу — але дзеля таго, каб пайсці далей.

Чаму трэба лічыць, нібы літаратура і літаратурная падрыхтоўка ў дадзеным сэнсе выключэнне? Этапаў, калі будучы творца вымушаны нейкі час выступаць у ролі падмайстра, які пераймае сакрэты працы са словам больш вопытных, аўтарытэтных настаўнікаў (і вопыт пры гэтым перадаецца непасрэдна, з рук у рукі), пазбегнуць жа нідзе практычна немагчыма... Ці дакладней усё ж будзе так: можна, але гэта абавязкова праявіцца пазней. Самастойнае спасціжэнне таямніц будучай прафесіі — дастаткова рэдкі феномен, а таму класічная сістэма падрыхтоўкі літаратурных кадраў экстэрн рэкамендуе выключаць. Тэрмін "літаратурная школа" сігналізуе пра наяўнасць відавочных элементаў вучнёўства і настаўніцтва ў адносінах паміж пісьменнікамі, на тое ж намякае этымалогія слова "літкансультант". Можна гаварыць, што статус літаратурнага падмайстра існаваў і існуе, хаця ён ніколі і не вытрымліваўся гэтак жа строга, як у цэхавых рамесніцкіх арганізацыях сярэднявечных гарадоў. Выхад першай самастойнай кнігі традыцыйна параўноўваюць са здачай экзамена на творчую сталасць. Відаць, невыпадкова...

Вельмі паказальны яшчэ адзін тэрмін, якім актыўна аперыруе літаратуразнаўства XIX стагоддзя: "паэт-самавук". У ім дастаткова выразна адчуваецца наступнае адценне, насцярожанасць прафесійнага літаратара, узгадаванага сістэмай традыцыйнага арыстакратычнага выхавання, адным з кампанентаў якой было

# АРАНЖАРЭЯ ДЛЯ АНАНАСАЎ

## ЗАЎВАГІ НА ПАЛЯХ АРТЫКУЛА А. ЛАПАТЫ-ЗАГОРСКАГА

Літаратурная адукацыя — паняцце ў многім міфалагізаванае. "Вывучыцца на пісьменніка" — патаемная мара пачынаючых літаратараў.

Многіх, але не ўсіх.

Бо частка іх — больш таленавітая ці больш самаўпэўненая — лічыць, што ўсё, патрэбнае для поспеху ў прыгожым пісьменстве, ім дадзена Богам, і цяпер справа толькі за найлепшым "змяшчэннем" атрыманага "капіталу".

Так, "літаратурную адукацыю" атрымлівалі ўсе арыстакраты мінулага стагоддзя, усе пісалі оды, санеты і балады.

АлеПушкін быў адзін.

І Лермантаў.

І Жукоўскі.

Бо талент — заўсёды адзін, сам па сабе. Ён і бачны таму, што адрозніваецца ад іншых. Любая адукацыя падразумявае нівеліраванне, аднолькавае праграмаванне. Творчасць заўсёды пачынаецца над адукацыяй або па-за ёю.

Думаецца, гаворка мусіць ісці пра неабходнае культурнае развіццё, пэўны ўзровень інтэлекту, эрудзіраванасці. Зразумець рэчы спецыяльныя — літаратурныя прыёмы, памеры, рытмы, рыфмы — можа ў прынцыпе кожны. Не кожны можа адпрацаваць такую колькасць літаратурных экзерсісаў, каб гэтыя прычыны прыўлашчыць, давесці да аўтаматызму ці, урэшце, паблажліва абвергнуць. І гэта — не адукацыя. Гэта самаадукацыя. Індывідуальная творчая праца.

Тут узнікае пытанне дылетанцтва ў літаратуры. Чым адрозніваецца дылетант-літаратар ад прафесіянала? Адсутнасцю членскага білета Саюза пісьменнікаў? Ці ёсць увогуле паняцце дылетанта-літаратара? Калі ў мастацтве амаль зразумела — гэты вучыўся, гэты не вучыўся, які крытэрый у літаратуры? Тым больш цяпер, пры разбурэнні класічных літаратурных форм?

Толькі талент, падтрыманы гадамі апантанай індывідуальнай творчай працы.

У такім выпадку, хто такі "літаратурны дылетант" — той, хто не засвоіў здабыткаў сусветнай культуры і піша на "фальклорным" узроўні?

Ці графаман, які не адчувае свайго сапраўднага ўзроўню і не здольны да творчага самаўдасканалення?

Пакуль што таленты ўзважваць не навучыліся. Няма такіх шаляў.

Хто вучыў пісаць таго ж Бальзака? Ён сам, ад дзяцінства, горы паперы "звёў", дзесяткі ранніх твораў "ляглі ў шафу", перш чым зрабіўся тым, кім зрабіўся. У прынцыпе, кожны пісьменнік — "man-made-him-self", той, хто сам сябе зрабіў. Так што сцвярджаць, што "самастойнае спасціжэнне таямніц будучай прафесіі літаратара — дастаткова рэдкі феномен", я б не стала. Што тычыцца шматлікіх літаратурных студый, курсаў, семінараў, якія існавалі і існуюць, асабліва за мяжой, дык іх задача перш за ўсё — стварэнне асяродка для развіцця творчай асобы, а не спецыялізаваная адукацыя яе. І тут да месца будзе паразважаць наконт міфа пра літаратурны інстытут, тым больш, што я — колішняя яго студэнтка.

З'яўленне такой установы цалкам абумоўлена часавымі абставінамі. Тут — і рэвалюцыйная ўпэўненасць наконт таго, што кожны можа стаць геніем, калі стварыць яму для гэтага ўмовы (згадаем успаміны старэйшай расійскай паэткі, вучаніцы Гумілёва Адоеўцавай пра асаблівы настрой першых паслярэвалюцыйных гадоў, калі побач з чырвоным тэрорам, голадам і рэзрухам незвычайна актывізавалася духоўнае жыццё, ствараліся шматлікія студыі і курсы — літаратурныя, рэжысёрскія, артыстычныя, замежных моў, дзе выкладалі найлепшыя прадстаўнікі мастацтва і навукі і дзе мог навучацца бясплатна любы жадаючы). Была і сапраўды неабходнасць даць элементарную гуманітарную адукацыю здольнай творчай моладзі "з народа" па насычанай і сціслай праграме. І — асабліва пасля — імкненне

авалоданне азамі гожага пісьменства пад прыглядам прызнаных майстроў, да тых, каму па ўсіх этапах падобнай падрыхтоўкі прайсціся не давялося. Важна ж было не толькі тое, якую Пушкін чытаў у Царскасельскім ліцэі оду, але і тое, што на экзамене (!) ён павінен быў яе чытаць. І не толькі ён — усе выпускнікі. Вось што было нормаю — паспрабаваць свае сілы практычна ў кожным жанры, каб мець уяўленне аб законах, якія ў ім уладараць. Таму сумненняў у тым, што Пушкін пры жаданні змог бы канкурыраваць з рамеснікамі нават "масавых" жанраў, не ўзнікае — на ўласным вопыце паэт паспяваў зведаць падчас вучобы падводныя камяні любой мастацкай структуры.

Спецыялізаваную падрыхтоўку, напрацоўку практычных навыкаў цяжка не прызнаць неабходнай. Прафесійныя літаратурныя школы функцыянуюць паўсюдна, і нідзе не ставіцца пад сумненне мэтазгоднасць іх існавання. Дастаткова прыгадаць, што ў многіх з тых, хто дасягнуў поспеху ў беларускай літаратуры, за плячыма былі менавіта літінстытут альбо Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Адсутнасць жа трывалага фундаменту, пад якім у дадзеным выпадку можна разумець наяўнасць навыкаў работы ва ўсіх жанрах (няхай сабе і ў выглядзе вучнёўскіх практыкаванняў, але абавязкова разабраных прызнанымі майстрамі) адчувальна збядняе палітру мастака, абмяжоўвае яго ў выбары формы.

Як ужо адзначалася, беларуская крытыка папракала маладых літаратараў 70-х гг. у аднастайнасці выкарыстанай жанравай палітры, некаторыя аўтары небеспадстаўна адзначаны былі тады як майстры адной тэмы, аднаго жанру. Між тым гэта відавочная прыкмета самастойнага спасціжэння пісьменнікам літаратурных навыкаў, недахоп, які выкараняецца толькі па меры напрацоўкі ўласных метадаў пранікнення ў раней недасягальныя пласты матэрыялу. Прыклады ў літаратурнай гісторыі ёсць. Прыгадаем, з якой цяжкасцю выйываліся (і далёка не кожны здолеў гэта зрабіць) за межы "свайго" песеннага гучання народныя самародкі ў рускай лірыцы XIX ст. Пераадоленне адсутнасці "школы" празаікам адлюстравана Д. Лонданам у рамане "Марцін Ідэн" — відавочна, што і тут нават моцным духам такое выпрабаванне даецца нялёгка. Толькі шчаслівае, але рэдкае спалучэнне таленту, творчай патрабавальнасці, здольнасці ў любым узросце ўспрымаць слушныя заўвагі ў асноўным як стымул для далейшага самаўдасканалення, дазваляе ў нейкай меры выправіць сітуацыю.

Выпускнікам філфакаў экстэрнавасць падрыхтоўкі сустрэчу з перыядамі цяжкага прарастання ў нязведанае амаль гарантавала. Падчас вучобы яны не атрымлівалі ніякіх практычных навыкаў прафесійнага літаратара, а задуманыя ў якасці школ літаратурнага вопыту семінары маладых аўтараў і літаб'яднанні пры ВНУ менавіта ў 50—60-х гг. сваёй асноўнай задачы — пастаноўкі літаратурнай тэхнікі — выканаць не маглі. Аб'ектыўна не маглі. Тут ішла хутчэй не вучоба, а дэманстрацыя ўжо дасягнутага літаратарамі ўзроўню. Першапачатковыя парывы наладзіць планамерную падрыхтоўку літаратараў, якія ў першыя пасляваенныя гады яшчэ прыносілі плён, пазней чамусьці пачынаюць замяняцца простым чытаннем твораў пачаткоўцаў і іх ухваленнем. У выніку будучы пісьменнік вымушаны быў разлічваць найбольш на ўласныя сілы, на самападрыхтоўку.

Сярод прычын, якія прадвызначылі падобную сітуацыю, хацелася б выдзеліць дзве асноўныя. Найперш неабходна адзначыць спецыфіку бачання свету мастаком сацыялістычнага рэалізму, які атрымлівае магчымасць працаваць з ідэалізаванай мадэллю. Аўтарская пазіцыя выносіцца тут у адназначна прагназуемае будучае, і ўжо з вышыні добра вядомага кожнаму выніку аналізуецца сюжэтная сітуацыя ў творы. Недахоп жыццёвага і творчага вопыту такая канструкцыя дазваляе лёгка камуфляваць запалам і рашучасцю ў развязванні канфліктных вузлоў, а таму стварыць "праўдзівы" сюжэт здольны нават аўтар, які глыбінных законаў архітэктонікі мастацкага свету яшчэ не спасціг. Наступная асаблівасць нашай прозы 70-х: хуткі першы поспех маладых і маруднасць іх далейшага творчага сталення тут фактычна ўжо закладзены. Так жа і было на самай справе! Прыём, сюжэтны ход, якія прынеслі поспех у апавяданні, пісьменнік адразу спрабаваў перанесці на больш шырокі пласт матэрыялу (спрацоўвала!) — і атрымліваліся аповесць (ці раман). Калі-небудзь, аднак, навык павінен быў вычарпаць сябе, а іншага ў арсенале нярэдка не было. Бо аповесць ці раман — гэта, лічы, самастойная кніга, статус майстра. Так занадта лёгкі поспех фактычна "з'ядаў" перыяд вучнёўства, калі парады больш сталых калег маглі ўспрымацца як непазбежныя. У выніку праяўлялася заўважанае многімі непрыняцце творчай вучобы маладымі 70-х. Пагодзімся, ёсць розніца ў самаадчуванні падмайстра і прызнанага літаратара. У нас склалася дзіўная сітуацыя, калі пісаліся слабыя, вучнёўскія па сутнасці раманы і аповесці, дастаткова аднайстайныя і падобныя, нібы блізняткі (бо грунтоўны, свой базіс практычных напрацовак падчас вучобы стварыць мала каму ўдавалася), але аўтарам якіх вельмі цяжка было даваць парады. Яны іх не слухалі!

Але гэта яшчэ паўбяды. Існаваў дадатковы фактар, які наклаўся на першы і шматкроць павялічыў абсалютнасць яго праяўлення. Як ужо гаварылася, менавіта на 50—60-я гг. прыйшоўся "зваротны ўдар" піка сталінскіх рэпрэсій трыццатых. Тады выбіта было пакаленне, якое пазней пры нармальным развіцці падзей магло выступіць у якасці літаратурных настаўнікаў. Паміж рамеснікам і яго падмайстрам павінна ляжаць (і звычайна ляжала) узроставая мяжа ў 20—30 год. Так вопытны майстра нібы гарантаваў сабе адсутнасць канкурэнцыі з боку сваіх вучняў, а тыя, у сваю чаргу, не адчувалі перспектывы калі-небудзь з ім паспаборнічаць. Успомнім Карамзіна, які слухаў Пушкіна... У нас жа пасля смерці Якуба Коласа засталіся ў літаратуры практычна два пакаленні: маладое і сярэдняе. Паміж імі была небяспечна малая, "канкурэнтная" розніца ва ўзросце, а таму і адносіны ў нейкім сэнсе хутка пачынаюць нагадваць хутчэй спаборніцтва, чым настаўніцтва і вучнёўства. Маладыя, за плячыма каторых былі хуткія першыя кнігі (хуткія часткова зноў жа з-за разрэджанасці літаратурнага асяроддзя!), заўвагі і парады больш вопытных калег успрымалі нярэдка ў штыкі і гаманілі пра ўціск з боку "масцітых"; далёка не кожны сталы майстра хацеў у другі раз паспрабаваць штонебудзь падказаць такому вось зубастаму маладзёну.

Калі вучобу літаратара параўнаць з трэнінгам спартсмена, сітуацыю можна выкласці наступным чынам: "філалагічнае пакаленне" пачынала спаборнічаць з больш падрыхтаванымі папярэднікамі, не паспеўшы нарасціць мускулатуру для марафонскіх забегаў на раманныя дыстанцыі. Аб'ектыўна ў маладых былі надта малыя шанцы на перамогу — многія з іх уключаліся ў барацьбу, па-сапраўднаму не адшукаўшы яшчэ сваю нішу ў літаратуры, сваю тэму. Творы цэлага пакалення набывалі рысы выразнага падабенства — малым быў дыяпазон перабраных у пошуках "сваёй" формы, а таму многія спыняліся на амаль аднолькавых рашэннях. Ды і жыццёвы вопыт не заўсёды вызначаўся ў філолагаў варыянтнасцю: акупавана і разбурана была ўся Беларусь, дзяцінства практычна ва ўсіх было нялёгкае і галоднае. Потым школа, універсітэт, зноўку школа (ці адразу часопіс альбо выдавецтва). Нават тэматычнага багацця ў такой сітуацыі ад літаратуры, здавалася, чакаць не даводзілася. Але спыніцца і адкласці мяркуемы трыумф на некалькі год, папрацаваць не на вынік — на фундамент будучага ўзлёту здольны быў далёка не кожны.

Погляд збоку заканамерна фіксаваў выразнае падабенства пазіцый двух пакаленняў. Маладых вінавацілі ў выкарыстанні адшуканых папярэднікамі тэматычна-вобразных нішаў. Але ж гэтага вельмі цяжка пазбегнуць падчас спаборніцтва, калі дзейнічае прынцып "Хіба я так не змагу?". За лідэрам бягуць у яго рытме і з яго тэмпам...

Аднак жыццё не стаяла на месцы, былыя дэбютанты сталелі, набіраліся сіл за спінамі прызнаных папярэднікаў, цягнуліся за імі — і паступова іх жанрава-тэматычны арсенал узбагачаецца. Больш таго, назіраецца адваротны ўплыў — маладыя відавочна не давалі прыпыніцца ў творчым удасканаленні тым, з кім спрабавалі канкурыраваць. На нейкім этапе павінен быў адчуцца "кампенсатарны штуршок", калі б уздым агульналітаратурнага ўзроўню дапамог часткова выправіць сітуацыю. Сапраўды, недзе на пачатку 80-х многія прадстаўнікі філалагічнага пакалення пачынаюць прыкметна прагрэсіраваць, гэта аднадушна адзначаюць крытыкі. Таму ў нас, па вялікім рахунку, не было правалу, "літаратурнай ямы" ў 80-х гадах — а яе ў падобных умовах можна было чакаць. І гэта гаворыць, як многа дадзена некаторым пісьменнікам "філалагічнага пакалення". Таленту і цярплівасці адмерана было ім Богам з запасам, каб хапіла на доўгую, доўгую дарогу. У іх яшчэ нямала творчых удач наперадзе.

Дык што — можна не гаварыць пра цяжкі перыяд іх росту, калі яны сталелі не дзякуючы, а хутчэй насуперак умовам? Але ж сітуацыя практычна не змянілася, і мы па-ранейшаму разлічваем найбольш на літаратараў з настаўнікаў. Між тым пайшлі ўжо 90-я. Вопыт ваенкаматаў сведчыць пра цяжкасці прызыву ў гады, калі ў войска павінны былі пайсці дзеці, унукі і нават праўнукі тых пакаленняў, што выбіты былі Вялікай Айчыннай. У літаратурным жыцці дадзены закон, на жаль, таксама дзейнічае. Чарада пахаванняў апошніх гадоў выбівае, выбівае літаратурных настаўнікаў. Знаёмыя прыкметы канфліктнай сітуацыі — спаборніцтва двух блізкіх пакаленняў у апошнія гады — цяжка не заўважыць.

Вастрыню сітуацыі магла б змяніць рэформа сістэмы падрыхтоўкі літаратурных кадраў. Ідэя вітае ў паветры — невыпадкова былі ўжо спробы арганізаваць творчыя групы на філфаку БДУ, невыпадкова ў гэтым годзе ва універсітэце культуры пачалі прыём на новую спецыяльнасць "тэле- і радыёдраматург". Магчыма, наспела пара адкрываць свой літаратурны інстытут? Каб атрымаць магчымасць весці планамерную, паэтапную падрыхтоўку будучых літаратараў. Відавочна ж, што гэта карпатлівая, доўгая, часам нудная — але такая неабходная справа.

У XX стагоддзі літаратурная тэхніка ўмоўна можа быць падзелена на чатыры ўзроўні: напачатку празаік (гаворка ідзе найперш пра яго) павінен навучыцца дакладна і нязмушана перадаваць статыку, знешнюю атрыбутыку малярухомых падзей. У нечым падобны навык прывіваюць школьныя сачыненні тыпу "апісанне карціны мастака". Потым дынамічнасць прыроды літаратуры як віду мастацтва абавязвае пісьменніка авалодваць навыкамі адлюстравання знешняга руху. Па сутнасці, гаворка ідзе пра сюжэтную выбудову твора — і дзякуючы гэтаму ад замалёвак можна перайсці да простых апавяданняў. Апавяданнем літаратуразнаўства традыцыйна лічыць адлюстраванне якой-небудзь падзеі...

Літаратуру новага часу без перадачы ўнутранага праз атрыбутыку знешняга і проста ўнутранага ўявіць ужо цяжка. Умоўна гэты трэці ўзровень навыкаў вызначыць можна як "перадачу статыкі ўнутраных станаў". Красамоўная дэталь, характэрны жэст, перадача асаблівасцей мовы персанажа — вось далёка не поўны пералік сродкаў, якімі неабходна авалодаць на дадзеным узроўні.

Але гэта далёка не ўсё. Сучасны чытач творамі майстроў папярэдняга стагоддзя прывучаны да наяўнасці ў рамане (так, толькі ў рамане ці аповесці, бо аб'ём апавядання для гэтага недастатковы, такая дынаміка не пераконвае) развіцця ўласна ўнутранага. Герой ужо не застаецца нязменным, яго вобраз мяняецца пад уздзеяннем апісаных у творы падзей на вачах чытача. Між тым арганічнасць падобных перамен нялёгка даецца аўтару, тут пачынаецца вышэйшая школа літаратурнага майстэрства. Спробы засяродзіцца толькі на дадзеным кампаненце без даведзенага да аўтаматызму валодання навыкамі папярэдніх узростаў адразу ж адбіваецца на якасці твора — ён літаральна "сыплецца" па насычанасці атрыбутыкай; знікае сюжэтная дынаміка. Вось чаму гавораць пра раман як пра выпрабаванне сталасці празаіка, вось чаму неабходна пісьменніку грунтоўна авалодваць "школай".

Магчыма, тут прыхаваны і карані няўдач літаратуразнаўцаў, якія бяруцца за напісанне раманаў, не прайшоўшы перад тым па ўсіх прыступках лесвіцы развіцця літаратурных навыкаў.

Вядома, да чыстага рамесніцтва — аналіз паказвае, як мала месца для творчасці менавіта ў тэхніцы, тут на адкрыццё здольныя толькі адзінкі — павінна дадавацца адметнае, арыгінальнае бачанне мастаком Сусвету. Вось чаму сапраўды нельга навучыць, вось што адразу праяўляецца нават у першых спробах пяра — і толькі наяўнасць такой арыгінальнасці дазволіць прафесійнаму літаратару стаць пісьменнікам, творцам. Упэўненае валоданне неабходнымі прыёмамі і навыкамі дазваляе проста ўвасабляць свой погляд на рэчы ў нескажоным выглядзе. З іншага боку, колькі мемуараў людзей, несумненна цікавых у якасці суразмоўцы, людзей, чый лёс гэтак багаты на падзеі, адметнасць бачання якімі свету відавочная — чытаць практычна немагчыма. Бо не валодае аўтар навыкамі прафесійнага літаратара.

Але ж несумненна і іншае: тым, па чыіх дэбютных старонках адчуваецца магчымасць будучага ўзлёту, неабходна дапамагаць, неабходна даваць ім практычныя навыкі, з рук у рукі павінны пераходзіць сакрэты літаратурнага майстэрства!

**P. S.** Вывады, выказаныя ў артыкуле, падказаны вывучэннем шляхоў перапрацоўкі сваіх ранніх твораў пры перавыданнях Э. Ялугіным і Г. Далідовічам. Перавыданні даюць унікальную магчымасць прасачыць менавіта за ростам чыста тэхнічнага майстэрства аўтара. Дык вось, пры несумненнай непадобнасці стылёвых і тэматычных адметнасцяў абодвух аўтараў, прынцыпы іх паўторнага вяртання да першых сваіх твораў адрозніваюцца вельмі мала: удасканальваецца дастаткова прыблізная напачатку фонавая панарама, пісьменнікі імкнуцца ўдакладніць яе і насыціць дэталямі. Адчуваецца, што назапашаны вопыт дазваляе ім вольна і нязмушана перадаваць сваё юнацкае светаўспрыманне (арыгінальнасць якога застаецца, захоўваецца) на больш высокім мастакоўскім узроўні. Новыя ж творы гэтых аўтараў сведчаць яшчэ і пра творчы, духоўны іх рост.

**Алесь ЛАПАТА-ЗАГОРСКІ**

---

трымаць гэтую моладзь пад кантролем, селекцыяніраваць згодна лініі партыі і г.д. Якія плюсы ёсць у падобнай навучальнай установы? Перш за ўсё, сапраўды — стварэнне творчага асяродка. Непаўторная атмасфера, калі малады творца адчувае сябе абраным, далучаным да эліты, калі ён мае магчымасць зносін з вялікімі пісьменнікамі і можа перастаць клапаціцца пра будучыню ў тым сэнсе, што яго не чакае дыплом з запісанай у ім звычайнай нецікавай яму прафесіяй і абавязковыя гады працы па гэтай прафесіі. Што яшчэ важна ў працы літінстытута — што навучанне вялося сапраўды па спецыялізаванай праграме, якая вызвалена ад многіх прадметаў чыста філалагічнага ўхілу. Зноў жа было шмат семінарскіх заняткаў, творчыя дні... Магчымасць бясплатна (прынамсі, так было) наведваць тэатры...

Што тычыць мінусаў — дык згадаю словы з "Майстра і Маргарыты" — іх мы, літінстытутаўцы, ведалі на памяць і напаўжартам паўтаралі, наконт таго, што вось за гэтымі сценамі гадуюцца літаратары, як ананасы ў аранжарэі. А садавіна гэтая, як вядома, лёгка псуецца, і ці не здарыцца так, што згаданыя ананасы ў цяпле папсуюцца? Безумоўна, усведамленне ўласнай выключнасці, абранасці, элітарнасці літаратарам-пачаткоўцам, уласна кажучы, і не зусім яшчэ літаратарам, можа "сапсаваць ананас" самым дрэнным чынам. Сведчанне таму — хаця б тое, што сярод штогадовых выпускаў спецыялістаў, у дыпломе якіх значыцца "літаратар", сапраўды літаратарамі, г.зн. адметнымі (ці прафесійнымі?) паэтамі, пісьменнікамі, драматургамі, крытыкамі, робіцца толькі пэўны працэнт. Відаць, той сам працэнт, што здзейсніў бы сябе і са звычайнай філалагічнай адукацыяй. А адметнасць выпускнікоў сталічнага літінстытута, адзінага ў былым СССР, на фоне іх правінцыйна (ва ўласнай рэспубліцы) адукаваных калег па творчым цэху хіба што ў тым, што некалькі год правялі ў высокакультурным, насычаным духоўнымі падзеямі асяродку, пэўным чынам "разняволіліся" думкамі, убачылі шырэйшыя "перспектывы" сусветнай культуры.

У кантэксце ж нашай нацыянальнай культуры літаратурная адукацыя мусіць выглядаць па-іншаму. Проста таму, што Мінск не можа спаборнічаць у насычанасці духоўнага жыцця з былой сталіцай савецкай імперыі, куды дзесяцігоддзямі сцякаліся лепшыя таленты з усіх рэспублік.

Зноў жа — крытэрый адбору перспектыўных пачаткоўцаў досыць плыткі. Па сачыненні? Па першых публікацыях? Першай кніжцы? Рэкамендацыях кіраўнікоў літаратурных аб'яднанняў? Для таго, каб паступіць у Літінстытут, трэба было абавязкова мець два гады працоўнага стажу. Усё роўна, па якой прафесіі. І гэта было, бадай, самае мудрае рашэнне. Чалавек, які пасля школы два гады адпрацаваў на "звычайнай" працы і ўсё-ткі хоча прысвяціць жыццё літаратуры, заслугоўвае большай увагі, чым учарашні школьнік, які хоча вывучыцца "на пісьменніка". Думаецца, падобны прынцып мусіць пераняць і аналагічная беларуская навучальная ўстанова ці факультэт — у тым, што такая з'явіцца, у мяне сумніву няма. Яна неабходна. Але ўсё-ткі, як мне падаецца, больш плённай яна будзе, калі побач з ёю будуць працаваць іншыя літаратурныя школы, студыі, курсы, якія зноў жа зоймуцца перш за ўсё стварэннем творчага асяродка. І гэта мусіць быць хутка — інакш тыя ж студыі, курсы, школы і інстытуты з'явяцца на базе рускамоўнага літаратурнага асяродка.

Спробы адкрыць уласныя творчыя школы ўжо рабіліся некаторымі актыўнымі беларускімі пісьменнікамі. Чаму яны скончыліся нічым — асобная размова. Першы, хто бярэ на сябе смеласць адкрыць такую школу, ставіць сябе ў самае нявыгаднае становішча — хто ён такі, што бярэцца вучыць іншых, а самому яшчэ вучыцца трэба... Акрамя таго, такія справы не павінны рабіцца на камерцыйнай аснове, інакш трацяць усякі сэнс.

Не ведаю, ці пагодзіцца са мной нехта, але, на маю суб'ектыўную думку, самая надзейная і даступная літаратурная адукацыя — гэта кнігі. Многае мноства кніг, якія належыць прачытаць, пачынаючы з дзяцінства. Што толку некалькі лекцый слухаць тлумачэнні, як напісана тое ці іншае апавяданне, калі зразумець гэта можна, толькі прачытаўшы тое апавяданне. У літаратарскім рамястве ёсць такая акалічнасць — ты можаш выбіраць настаўнікаў па сваім гледжанні, з любой эпохі. Усе сакрэты адкрыты дапытліваму воку. Таму разглядаць адсутнасць спецыяльнай "літаратурнай" адукацыі яе сведчанне прафесійнай недасканаласці пісьменніка проста недарэчна. Ды ў каго з вялікіх была такая? Якуб Колас па адукацыі быў настаўнікам, Максім Багдановіч — юрыстам, Янка Купала скончыў агульнаадукацыйныя курсы...

Так што "падрыхтоўку літаратурных кадраў у рэспубліцы" і "практычныя навыкі" літаратара-пачаткоўца ніколі не ўдасца рабіць цэнтралізавана. Прынамсі, у дэмакратычнай краіне. Пісьменнік, бадай, адзіная прафесія, для пацвярджэння якой не трэба спецыяльнага дыплома. А валіць недастатковае валоданне сюжэтам, элементамі кампазіцыі ды іншай "творчай кухні" на тое, што аўтар не наведваў спецыяльных курсаў, таксама не варта. Ніякія курсы, ніякі міфічны настаўнік-літаратар не напішуць за аўтара пэўную колькасць няўдалых твораў, пасля якіх колькасць пяройдзе ў якасць. Урэшце, узяў бы добры класічны раман ды вучыўся на ім!

Так што перш чым будаваць "аранжарэі" для літаратурных "ананасаў", трэба выразна ўсведамляць, што пагалоўных Пушкіных там не вырасціш. Пры найлепшых умовах здзейсніць сябе зможа толькі пэўны працэнт, што абсалютна нармальна. І яшчэ, што тычыць "карпатлівай працы", "часам нуднай", доўгіх вучнёўскіх экзерсісаў. Не ўпэўнена, што пачынаючыя літаратары — а яны схільныя ў маладым узросце да эксперыментатарства і самавыяўлення, спакусяцца такім "рамесніцкім" шляхам у літаратуру... Тым больш, што сусветная гісторыя ведае мноства талентаў, якія цалкам рэалізавалі сябе ў самым маладым узросце, літаральна "згарэлі" за кароткі тэрмін... І трацiць свой час і талент на "экзерсісы"?

Карацей, пытанне літаратурнай адукацыі надзвычай тонкае і складанае. Не збіраюся рабіць ніякіх падрахункаў і высноў. Але хацелася б, каб гэтае пытанне прыцягнула ўвагу да сябе. Запрашаю ўсіх, хто мае свой погляд на яго, выказацца на старонках "ЛіМа".

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**

# НОВЫМІ ВЕРШАМІ НІЛА ГІЛЕВІЧА

адкрываецца дзевяты нумар часопіса "Роднае слова". Штрыхі да творчага партрэта Ніла Сымонавіча ў сувязі з 50-годдзем пачатку яго творчай дзейнасці і 65-годдзем з дня нараджэння напісала Л. Ламека — "Боль і сумленне Бацькаўшчыны". Да 50-годдзя С. Законнікава прымеркаваны публікацыя яго твораў і артыкул Л. Гарэлік "Выходзіць сэрца з берагоў...", а таксама гутарка А. Гібкоўскага з С. Законнікавым як галоўным рэдактарам часопіса "Полымя" — "Працаваць на будучыню".

М. Тычына ("Майстэрства перфармацыі") працягвае рубрыку "Літаратура беларускага замежжа", разважаючы ў сувязі з 60-годдзем С. Яновіча пра яго творчасць. Старонкі паэзіі Я. Коласа перачытвае У. Конан ("Цыклічная структура лірыкі"). Над апавяданнем Ядвігіна Ш. "Суд" разважае У. Содаль ("Новая старонка ў беларускай літаратуры"), публікуецца і само апавяданне. Летапісанне перыяду Вялікага княства Літоўскага ў полі зроку А. Лойкі ("Узнаюць гэта ўсё патомкі праз паперу!"). Пра моўныя асаблівасці твораў Янкі Купалы — гаворка І. Лепешава. "Нарысы з гісторыі сусветнай літаратуры" працягваюцца артыкулам Л. Баршчэўскага "Крысціёнас Данелайціс і яго паэма "Чатыры пары года". Т. Шамякіна ("Раннія формы мастацтва") асэнсоўвае ўзнікненне пачуцця прыгажосці, заглыбляючыся ў гісторыю культуры. В. Скарабагатаў знаёміць з кампазітарам Ф. Мілажоўскім ("З людзьмі, Богам дух мой яднае").

М. Скобла ў рубрыцы "Літаратурны ветразь" прапануе творы шэрагу паэтаў.

# "ПРАЛЕСКА" Ў ПРЫНЁМАНСКІМ КРАІ

Дзевяты нумар часопіса "Пралеска" цалкам прысвечаны Гродзенскай вобласці, а калі дакладней — сістэме дашкольнага выхавання на Гродзеншчыне. Пра гэта і сведчыць у лісце рэдактара галоўны рэдактар часопіса А. Сачанка. Змешчаны гутарка А. Сачанкі "Верце ў лепшае" з начальнікам абласнога ўпраўлення адукацыі А. Саўчыкам, выступленні вядучага інспектара упраўлення адукацыі Гродзенскага аблвыканкома А. Паважнай "Наш клопат і надзея", загадчыка аддзела адукацыі Ленінскага райвыканкома г. Гродна Л. Маляўкі "Жыць учарашнім нельга", арганізатара аддзела адукацыі Зэльвенскага райвыканкома Т. Арапіновіч "Арганізацыя дашкольнага выхавання ў Зэльвенскім раёне", выхавальніка дзіцячых ясляў-сада вёскі Сянькоўшчына Слонімскага раёна Ж. Сідорык "Арыенцір — асоба", фотарэпартаж Л. Клышко "Нягневічы — водар руж", шэраг іншых матэрыялаў.

Ды, як бы ні было цесна матэрыялам на старонках нумара, але "Пралеска" знайшла месца, каб змясціць віншаванне з 65-годзем Н. Гілевіча — артыкул "Сейбіт з блакітным святлом у вачах" і казкі славянскіх народаў у перакладзе і апрацоўцы Ніла Сымонавіча.

# СВАІМ ШЛЯХАМ

"...Адзін з нешматлікіх даследчыкаў старажытнай гісторыі Беларусі, які ішоў сваім шляхам, ...амаль не наследаваў ранейшых вучоных, на многія пытанні гісторыі меў свае погляды, чым і цікавы ў гістарыяграфіі, археалогіі і краязнаўстве", — так Генадзь Каханоўскі сказаў пра гісторыка, краязнаўцу, этнографа, вайсковага тапографа і статыстыка М. Без-Карніловіча.

Міхаіл Восіпавіч, па ўсёй верагоднасці, нарадзіўся на тэрыторыі Магілёўскай губерні, а адбылося гэта 200 гадоў назад, 10 кастрычніка 1796 года (памёр 19 студзеня 1862 года). У 1831—1847 гадах М. Без-Карніловіч кіраваў тапаграфічнымі экспедыцыямі ў Мінскай, Ноўгарадскай, Валынскай, Віцебскай, Магілёўскай губернях і Беластоцкай вобласці. Даследаваў гісторыю Беларусі, збіраў археалагічныя звесткі, занатоўваў народныя паданні і легенды пра помнікі археалогіі і этнаграфіі. Пяру М. Без-Карніловіча належаць працы па беларускім краязнаўстве. У 1855 годзе ў Санкт-Пецярбурзе пабачыла свет яго асноўнае даследаванне "Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений к ней относящихся" (не так даўно ў Смаленску пабачыла свет яго факсімільнае выданне, якое яшчэ можна набыць). М. Без-Карніловіч продкамі беларусаў лічыў крывічоў і радзімічаў, гаварыў пра беларусаў як пра самастойнае племя, цэнтрам крывічоў называў Полацк. Даказваў паходжанне Вялікага княства Літоўскага з роду полацкіх князёў.

Алесь ЧОБАТ



# СНЕЖАНЬ

## I

Неба шэрае, мокрае, бруднае — як ватоўка.
Гэта зіма. І ўвогуле — гэта цяпер надоўга.
Як з патрулём па дарозе
да райаддзела з-пад рэстарана.
Позна думаць, як жыць, а як паміраць,
думаць рана,
думаць увогуле шкодна
і цяжка на галаву —
таму з-над Нёмна заўсёды ўзіраліся
на Маскву.
Лішняе хіба пішу на цялячай скуры Імперыі.
У гонар "Празрыстай" гарэлкі
называецца тут мяжа.
Але пры якой Імперыі
хто не махаў паперамі?!
Адной папераю можна зарэзаць
усіх без нажа.
Плюхае пад нагамі. Жоўтыя вокны свецяць.
Тлум на прыпынках. Кісла.
Чорны адліжны вецер.
Дрэвы, як мёртвыя птушкі,
не могуць падняцца з зямлі.
Невядома, чый гэта горад.
Прападзе невядома калі.
Вакзал. Людзі спяць навалам.
Болей няма нікога.
Шэрыя твары. Курткі. Торбы.
Клункі. Мяшкі.
Тут хоць на месца Бога пастаў
ты дурня любога —
ніхто не заўважыць. Дарога. Ноч.
Вакзал. Цягнікі.
А што застаецца тут:
брукі, касцёлы, дрэвы —
гэта нейкія рэшткі, цені, руіны, Крэва,
якое ў глыбокую студню падае давідна,
і тым страшнейшая смерць,
чым бліжэй да белага дна,
калі разлятаецца свет у вачах
з апошнім ударам...
Над хімічным заводам
неба дыхае перагарам.
З комінаў, як з ахвярнікаў,
падымаецца дым.
Ранак з прысмакам попелу.
Хмараў змерзлыя хвалі.
"Нобелеўскіх лаўрэатаў
у Гродне не пражывае..."
Гэта — амаль што з Біблії.
У томе дваццаць другім.
Жыццё кіпіць, не здыхае.
На працу выходзіць змена.
Нехта мяне хапае проста ніжэй калена
І цягне з нябёсаў туды,
дзе развальваецца і рыпіць.
"Мы вам пакажам прывычку
па забягалаўках піць!".
Але час прападае ўсё роўна.
Людзі гнiюць пад снегам,
слізгаюцца галалёдам у руках
з батонам і хлебам,
лічаць грошы,
чакаюць учарашняга светлага дня
і радуюцца таму, што тут яшчэ не Чачня,
а тая Чачня адгэтуль дагарае далёка.
Хаця — і з Гродна свабодная
і без мяжы дарога
толькі адна і толькі — на ўсход,
дзе сонца гарыць!
Але і пра гэта нават думаць і гаварыць
трэба было раней,
чым з павесткай каля дзвярэй.

## II

Толькі гэта ўсё пра народ.
Гэта — як у газеце "Свабода".
А таму крыху пра сябе —
кандыдата ў члены народа.
Вось я іду па вуліцы. Плошча.
Касцёл. Турма.
Адна прагулянка. Нарэшце.
Карысці з мяне няма.
І снежань кругом. А тое, што дзень карацее,
сляпому ўсё роўна — тым больш,
не сам я, надзея
памірае апошняй і на крыжы вісіць,
пакутуе, праклінае, церпіць —
хоць няма сэнсу.
Гэта край камбікорма, чорнага хлеба
і сексу.
Тут самі з сябе найлепей умеюць
вяроўкі віць.
Тым болей — з лішніх, сляпых,
без канца і пачатку.
Скуру спусцілі. Няма дзе паставіць пячатку.
І грошай няма на труну —
каб у яму законна ўпасць.
Таму — адзінае выйсце: як прыйшоў,
так прапасць.
Але пакуль яшчэ снежань.
Гэта канец толькі года.
І ўсё працягваю жыць —
кандыдат у члены народа.
Там, дзе павісла ўсё над зямлёй, як туман.
Кругом руіны — што зробіш,
Нёман гэта не Вісла.
І ўсё, што можа вісець,
над гэтым краем павісла
разам з уладай, народам, крэдытамі
і даўгамі,
павісла між берагамі,
як нешта паміж нагамі —
так і вісім,
і чакаем учарашняга светлага дня,
і дзякуем, дзе як можам,
што тут пакуль не Чачня.

## III

Мы і нашы бацькі, — што тутэйшыя,
што "з Расеі", —
не пайшлі за сваім Хрыстом,
як жыды за сваім Маісеем.
Мы мянялі веру на веру, мову на мову,
шыла на мыла. Свінні, куры й каровы
з'елі гэты народ —
і што тут пладзіць дзяцей?!
Каму і навошта?! На мяса панам ваякам?!
Тут не ракам хварэюць —
тут мазгі даўно сталі ракам.
Вось так, Максім і Купала!
І ты, Бурачок Мацей...

## IV

Ноччу сніцца — некуды доўга еду.
Прывіды танкаў паўзуць па жоўтаму небу,
двуногія душы адлятаюць ад іх на хаду —
як быццам абмалацілі
і веюць цяпер на таку;
еду міма тых, хто рассыпаўся,
як бутэлькі шкло,
міма тых, каго быццам і не было,
а калі і былі, то гэта цяпер няважна
і няважна цяпер, дзе ваша зямля і не ваша —
тым, хто попелам стаў
і каго ў нябыт панясло.

## V

Гэта снежань. Даўно было тое лета...
Ноччу сніцца — некуды доўга еду.
Вось гарачае сонца рассыпаецца
над узлескам,
чую, блузка твая разлятаецца з трэскам
і халодныя яблыкі апускаюцца
ў рукі мне —
як на свеце другім, у стагоддзі другім,
у сне...
Што ж змянілася? Проста час,
як дом, зрабаваны,
і стаю над краем зімы,
як над краем ямы —
і ніхто яе не пераскочыць і не абміне,
не на свеце другім жывём,
не ў стагоддзі, не ў сне.
Але, кажуць, добра жывём.
Не на вайне. Не ў Чачне.

## VI

Тут спакойна. Тут цёпла пакуль.
Толькі касу праелі дапчэнту.
І не хочуць памочнікі
дапамагаць прэзідэнту.
Але меры прымаюцца.
Будзе ўсё — хоць прыходзь і бяры.
Толькі цягнецца час ад людзей незалежна.
Чорна. Кісла. Дванаццаты тыдзень снежня.
Самі знаеце, дзе і чаму лічыцца дзень
за тры.
Пра сябе гэта?
Ці — як з газеты "Свабода"?!
Ёсць праблема начальства?
І няма праблемы народа?
Проста нехта аднекуль прыйшоў,
нарабіў, абакраў...
І ў каго не пытайся —
ён "гэтых" не выбіраў!
І "свядомасць" расце.
Вось мужык з перавязанай глоткай
І на выгляд з народа: "Спадарства!
Каторы апошні за водкай?"
Кандыдаты ж у члены народа
не ходзяць у гэтыя крамы
І не чуюць той крык абуджэння
ў гадзіну народнае драмы,
і народнае гора, як мора,
ў душы не шуміць...
Бо такія, як я — гэта выкапні:
тым, хто з ванны, нідзе не баліць.
Толькі снежань, як скроні, сціскае кароткія
дні абцугамі,
і маленькія людзі чакаюць
у дрэў пад нагамі
свой апошні тралейбус...
"Мужчина! Не жмите меня!"
"А ідзі ты, зараза! Паду-умаеш!
Тут не Чачня...".

## VII

Снег пасыпаўся... На зямлі святлее.
Пачынаецца нейкая дзіўная дзея —
быццам людзей няма на зямлі
і прыгожа кругом;
але гэта хлусня, бо людзі не прападаюць,
нават тутэйшыя, якія нічога не маюць,
усіх перабралі на свеце
і вярнуліся ў родны дом.
Гэтая вёска перастаяла палякаў,
саветаў і немцаў — ад Індуры па Ракаў
тут непахісна стаіць невядома што,
а прымаць не хоча сваіх —
а каму яны больш патрэбны?!
І нават само пытанне пастаўленае дарэмна.
Гэта — як ліжам віно і глядзім кіно,
а што глядзім —
дык усім усё роўна даўно...

## VIII

Кіну ўсё гэта. Надакучыла гэта. Абрыдла.
За падачкі грашовыя Бога прадасць
наша быдла.
Пастраляць бы далі...
Пастраляць бы такіх, як я...
Надакучыла слухаць...
Мне абрыдла Айчына мая.
Не хачу больш прыдурвацца.
Няма сэнсу быць дужым.
Лепш быць снегам на бруку,
які мяце вецер.
Лёс даецца не нам — толькі нашым душам.
А што з душамі будзе —
будзем знаць на тым свеце.
Чаго маю баяцца? Якой хваробы?!
Што хацець мне ад Бога?
На зямлі каго слухаць?
Піць гарэлку —
пакуль не згараць вантробы?
З хворымі бегаць пад сцягам?!
Плакаць па Беларусі?!
Дзеля чаго мне знаць, што было і будзе?
Чым накрыюць?
Зямлёй ці кніжнай старонкай?
І ці сам я праспаў, ці не пусцілі людзі
гадаваць малую дачку
і хваліцца прыгожай жонкай...
Кропка тут. І здыхай — тут,
дзе кропку маеш.
Так ці гэтак, а час заўсёды кароткі,
і каго ні ламай, але толькі сябе зламаеш
і з усімі разам нарэшце дойдзеш да кропкі.

## IX

А што тая кропка?
Цэнтр стралковай мішэні?
Лагерны нумар,
нашыты над левай кішэняй?
Ракетная шахта? Яма пад новы Крыж?
Проста месца на вуліцы,
дзе на прыпынку стаіш?
Цемра. Цяжка нават двайм размінуцца.
Цяжка нават заснуць —
і намнога цяжэй прачнуцца.
Што з намі стала? Задоўга задобра жылі?
Елі, пілі і — не па чыну бралі?!
Крала толькі начальства —
мы нічога не кралі?!
І верылі кожнаму дурню.
Бо хітрыя нават былі...
А цяпер — над Чачнёй перамога
і вяртанне ў Расію.
А што тут такога?! І там усе будзем касыя,
як тут былі — а хіба ж мы не народ?!
Нават тыя, якія ўсё кандыдаты...
Час паціху паўзе да нейкай вялікай даты.
І начальства вялікае наша заглядае
ў новы вялікі рот.
І ўсе кажуць, што мы еўрапейскі народ.
Вось жывём толькі наадварот...

## X

Ранак. Двуногія душы пакункі
свае цягаюць.
Начальнікі на Расію хочуць —
ды не спяшаюць.
Праблема ў тым, што начальства
хоча начальствам быць.
І за тое, што яно рускае, Расія мае плаціць.
Проста сядзець начальнікам і
чакаць кожны дзень указа,
што цябе ўжо пагналі —
хай яно лясне, зараза!
Вось і ўся псіхалогія ўлады і народа душа...
Здаецца, нават Расія не дастане
тут ні шыша.
І на вуліцы снежань...
Нейкі індык надзьмуты
абяцае з экрана, што парадак зробіцца
ў лютым.
"Зробіцца той парадак,
зробіцца сам па сабе...".
Так. Вясною на сотках кожны стане
ракам і паграбе...
Нацыя дамагалася
яснавяльможных партрэтаў.
Нацыя самаедаў абыходзіцца без паэтаў.
Гэта снежань. Яма. Кропка.
Чорна-белая мітусня.
Гэта край, якому ніхто і нідзе не верыць.
Гэта чорна-белы экран тэлевізара "Верас",
дзе са смакам смакуюць,
як дагарае Чачня.
Неба шэрае, мокрае, бруднае —
як ватоўка.
Будзе і тут: брат — кулямёт,
і сястра — вінтоўка.
Жыжа колеру прыбіральні па бруку цячэ.
І дзякаваць Богу, што гэта снежань яшчэ...

*снежань, 1994 — люты, 1995*

Музыка

# ЗАЛОЖНІКІ МЕЛЬПАМЕНЫ,
# або НЯЗВЫКЛЫ ПОЗІРК НА ОПЕРНУЮ "ЗОРКУ"

***Усё створанае Богам на гэтай планеце грунтуецца на іерархіі, іерархічная прырода, іерархічнае грамадства, іерархічны нават свет злодзеяў і прастытутак. Ну, а кожная іерархія вызначае эліту, г. зн. вышэйшы пласт дадзенай дзяржавы, дадзенай прафесіі, дадзенага стылю жыцця. І ў гэтым няма ніякай пыхлівасці і снабізму, эліта — гэта нармальны прадукт здаровага грамадства. Больш за тое, увесь цывілізаваны свет ладзіць сувязь праз эліту, і калі дзяржава не мае яе, значыць, для свету яна проста не існуе...***

Такім чынам, хто ж адносіцца да свету эліты?.. Гэта дзяржаўныя дзеячы, дыпламаты, вучоныя, мастакі, "зоркі" кіно, эстрады і... адасобленая, быццам востраў, каста "оперных дзіваў". Чаму адасобленая? Ды таму, што, надзяляючы іх усімі матэрыяльнымі выгодамі, якія мае астатні свет эліты, грамадства яшчэ і прызнае іх сапраўднымі носьбітамі боскай прыгажосці, высакароднасці і вытанчанасці...

Але гэта — там, "у іх". Вернемся ж у родны наш свет і паглядзім, што ж набыло ў гэтым сэнсе наша грамадства.

На першы погляд, усё досыць добрапрыстойна: ёсць оперны тэатр з адметным абліччам, ёсць оперны рэпертуар, прычым пастаўлены на мовах арыгіналаў, ёсць оперная трупа, якая выязджае ў "тую самую Еўропу", ёсць оперныя прымы, не абдзеленыя ні голасам, ні паставай... Але ж ці ўсё сапраўды добра ў "каралеўстве дацкім"?..

Я стаю ў закулісным калідоры опернага тэатра, гляджу на салістак, якія праходзяць міма мяне, і нешта не заўважаю таго элітарнага "прымадоннага" дабрабыту і непрыступнасці, хутчэй я бачу нейкую ці то журбу, ці то расчараванасць... Магчыма, гэта індывідуальная адметнасць? Ды не, у большай ці меншай ступені гэтая рыса праяўляецца амаль на кожным твары. Нарэшце, набіраюся смеласці і пераступаю нябачную рысу, якая аддзяляе артыстаў ад "простых смяротных"...

Мая суразмоўца — адна з вядучых салістак беларускай оперы Нагіма ГАЛЕЕВА.

**— Нагіма, агульнапрызнана, што свет оперы — гэта эліта з эліт, і пра жыццё оперных "зорак" ходзяць легенды. Але, аказваецца, у нашым грамадстве гэты бок жыцця абстаўлены ўжо занадта сціпла, я б сказаў, нават без неабходнага шуму. Мы столькі наслухаліся пра сваіх нават наваспечаных эстрадных "зорак" і амаль нічога не ведаем пра вядучых салістаў оперы... Я хацеў бы крыху высветліць гэты бок нашага жыцця... Як вы адчуваеце сябе ў якасці вядучай салісткі оперы ў нашым горадзе? (Пры гэтым я заўважыў у вачах Нагімы столькі іроніі, што адчуў неабходнасць перайначыць пытанне). Але ж, паспрабуем пачаць з чаго-небудзь добрага. Вось вы шмат разоў бывалі на гастролях у Іспаніі. Як вы там пачуваліся?**

— Прымалі нас цудоўна, былі пастаянныя аншлагі, захопленая і раскаваная атмасфера. Адчувалася, што для іспанцаў — гэта сапраўды свята. Яны доўга і бурна дзякавалі і салістам, і аркестру, і хору...

**— Але гэта датычыць усяго калектыву. А мяне цікавіць манера, стыль, традыцыя іспанцаў выказваць індывідуальную ўдзячнасць — г. зн. як паводзяць сябе прыхільнікі не з боку сцэны, а з боку кулісаў, грымёрнай, службовага ўваходу?..**

— Многія падыходзілі пасля спектакля і ў грымёрную, і да службовага ўваходу, і проста на вуліцы... Паводзілі сябе вельмі пачціва і нязмушана. Ужо само іх з'яўленне ў грымёрнай было незвычайным. Спачатку ў пакой урываўся цудоўны водар, а следам — элегантна апранутыя людзі... Прыходзілі часам з кветкамі, часам з шампанскім, з цукеркамі, часцей проста з праграмкай — па аўтограф. Пытанне "з чым прыйсці" для іх абсалютна непрынцыповае, важная зусім натуральная патрэба выказаць свае эмоцыі і ўдзячнасць непасрэдна артысту. І гэта не можа не крануць, таму што ў гэтым выяўляецца стаўленне і да цябе асабіста, і да людзей мастацтва наогул, якіх там паважаюць, любяць і абагаўляюць...

**— А што вас чакае пасля спектакля ў родным горадзе?**

— Пранізлівы вецер на тралейбусным прыпынку...

**— Што ж, тады вернемся ў Іспанію...**

— У Саламанцы ў дзень другога спектакля я прыйшла ў залу як глядач, паглядзець працу сваіх таварышаў. Раптам я чую воклічы: "Сіньёра Галеева, сіньёра Галеева...". Мяне абступілі гледачы, якія былі на першым спектаклі, дзе я выконвала партыю Суцукі ў "Мадам Батэрфляй". На іх тварах было столькі радасці і ўдзячнасці... "Гэта было дзівосна", — гаварылі яны. Уяўляеце, не проста добра, а — дзівосна. А што яшчэ трэба нам, артыстам? Добрае слова...

**— А часта вас пазнаюць і звяртаюцца на вуліцах Мінска?**

— За 16 гадоў працы ў оперы — ні разу.

**— Але ў грымёрную прыходзяць?**

— Як правіла, прыходзяць толькі знаёмыя. І, думаю, прычына такога стаўлення не ў маёй персоне. Проста ў нас няма такой традыцыі...

**— Магчыма, сітуацыя з часам усё-такі мяняецца?**

— Прынцыповых зменаў я не заўважаю.



Праўда, у оперы пачалі з'яўляцца прадстаўнікі прадпрымальніцкага свету, але відаць, што прыходзяць яны не дзеля эстэтычнай асалоды, а з меркаванняў прэстыжу. Таму іх з'яўленні выпадковыя. У сапраўднага прыхільніка оперы пастаянная і патрэба, і здольнасць браць тое, што даюць яму музыка і артысты. А калі гэтай патрэбы і здольнасці няма, то гледачу сумна, ён ідзе з тэатра пусты, і другі раз калі й прыходзіць, то не хутка...

**— Няўжо ў зале няма заўсёднікаў?**

— Ёсць, вядома. І сярод іх, дарэчы, прадстаўнікі замежных пасольстваў, але пагоды яны, на жаль, не робяць.

**— Атрымліваецца, што ў Іспаніі вы адчувалі сябе больш паўнацэнна?**

— Як артыстка, ды і проста як чалавек, на замежных гастролях я адчувала сябе непараўнана лепш, але па-сапраўднаму адчуць сябе вядучай салісткай можна толькі на індывідуальных гастролях...

**— А ў вас былі такія гастролі?**

— Так, была нагода — з кіеўскай операй я выступала ў Германіі, Швейцарыі, Францыі. Помню пытанні здзіўленага імпрэсарыо запрашаючага боку: "Чаму вы не працуеце на Захадзе? Вы ж — "хай кволітэ"? Што я магла яму тады адказаць?..

**— Ну, а цяпер гэта магчыма?**

— Мінск не ўваходзіць у сусветную кан'юнктуру культурных гарадоў, таму сур'ёзныя імпрэсарыо да нас проста не прыязджаюць. Нас калі ангажыруюць, то оптам, адразу ўвесь калектыў. У Маскве і Санкт-Пецярбурзе нават студэнты маюць шанц атрымаць кантракт з еўрапейскімі тэатрамі. Нашы былыя салісты Марыя Гулегіна, Вячаслаў Полазаў, Міхаіл Рысаў трапілі на заходнюю сцэну дзякуючы асабістым сувязям або выпадку, іншай магчымасці трапіць на вочы сур'ёзным імпрэсарыо ў нас, на жаль, пакуль няма.

**— Значыць, пакуль мы самі не спазнаем, не ацэнім і не ўславім свае таленты, ніхто ў свеце не будзе ўспрымаць нас усур'ёз...**

— На жаль... А пакуль "оперная прыма" ў нас — гэта простая савецкая жанчына, "працаўніца культурнага фронту", якая адпрацоўвае свой долар за спектакль, як калгаснік у свой час адпрацоўваў рубель за працадзень. У Югаславіі адзін паклоннік літаральна ўкленчыў перада мной, ён не мог паверыць, што я магу загаварыць з ім, зірнуць на яго. У іх артысты — гэта ўзровень дыпламатаў і дзяржаўных дзеячаў... І гэта ў маленькай Югаславіі! У нас жа артыстка — гэта, даруйце, ледзь не жанчына лёгкіх паводзін...

**— Скажыце, Нагіма, што ёсць у вашым жыцці за межамі тэатра, што памагае пераносіць такія выдаткі душэўнай энергіі?**

— Наша прафесія такая, што вымагае поўнай самааддачы, і ні на што іншае не застаецца ні часу, ні сіл...

**— Напэўна, трэба быць вялікім філосафам, каб, разумеючы ўсё гэта, не кінуць тэатр, не залезці ў пятлю, а зноў і зноў выходзіць на сцэну?**

— Як гэта ні банальна гучыць, але на самай справе выбару ў нас проста няма. Той, хто адкрыў у сабе гэтую прызванасць — быць інструментам вышэйшых сіл, ужо не здатны супраціўляцца прызванню, а можа толькі служыць.

**— Дзіўная супярэчнасць: вышэйшымі сіламі вы закліканы, а грамадствам, у якім жывяце, не закліканы. Вы не адрынуты, не — вас проста ігнаруюць. Г. зн. опера ў нас існуе не як патрэба грамадства, а як наменклатурная адзінка, бо трэба ж некуды вадзіць дэлегацыі...**

— І пакуль так будзе працягвацца, ускраіна Іспаніі для цывілізаванага свету будзе значна бліжэй да цэнтра Еўропы, чым Беларусь з яе геаграфічнай бездакорнасцю.

На гэтым наша сумная, але небескарысная гаворка закончылася. Праз пяць хвілін пачыналася рэпетыцыя...

**Сяргей ГАЛАВЕЦКІ,**
**кінарэжысёр**

*На здымку: заслужаная артыстка Беларусі — Н. Галеева — Эбалі ў оперы "Дон Карлас".*

*Фота В. МАЙСЯЁНКА*

Спадчына

# ЗАБЫТАЕ ІМЯ

З году ў год у рыжскую кватэру Ганны Рыгораўны Жарабцовай прыходзілі падлеткі, маладыя хлопцы і дзяўчаты. Сівенькая, сталага веку жанчына давала прыватныя ўрокі спеваў. Яшчэ ў 1922 годзе яна пакінула савецкую Расію. Мажліва, выбар камерная спявачка і педагог зрабіла досыць правільны. Хіба ж была гарантыя, што яе паходжанне не стане прычынай для арышту праз годдва, праз дзесяцігоддзе?.. Усё ж такі нарадзілася Аня (а здарылася гэта ў Гародні 13/25 верасня 1868 года) у сям'і камандзіра Пермскага палка. Такая акалічнасць наўрад ці выпала б з поля зроку пільных спецслужбаў маладой таталітарнай дзяржавы. Што ім, гаспадарам-уладарам, да вялікага таленту, да яго палёту над усялякімі там "ізмамі". І застанься Ганна Рыгораўна ў Расіі, то зусім не выключана, што не мінавала б канцлагера сталінска-берыеўскай сістэмы...

Хто ж яна, — Ганна Рыгораўна Жарабцова-Андрэева (па прозвішчы першага мужа — Яўрэінава)? Дзе, на якой прыступцы яе месца ў гісторыі музычнай культуры?..

Адукацыю напачатку Аня атрымала ў Екацярыненскім інстытуце. У 1887—1892 годзе навучалася ў Пецярбургскай кансерваторыі, у класе Наталлі Ірэцкай. Асаблівую ўвагу Наталля Аляксандраўна ўдзяляла развіццю роўнасці, рухомасці і гібкасці голасу, інтанацыйнай выразнасці, распрацоўцы мастацкай інтэрпрэтацыі. І. С. Тургенеў (пазнаёміўся з ім спявачка ў Парыжы) у адным з лістоў адзначыў Ірэцкую як лепшую вучаніцу Паліны Віардо. Наталля Аляксандраўна творча засвоіла методыку яе выкладання. Дзесяткі спевакоў выхавала Ірэцкая. Многія з яе вучняў выступалі на сцэнах беларускіх гарадоў.

У 1891 годзе Аня Жарабцова дэбютавала ў кансерваторскім канцэрце, арганізаваным А. Рубінштэйнам. Пасля вучобы была запрошана ў Прагу. Там прыняла ўдзел у прэм'еры оперы А. Рубінштэйна "Маісей" (22 чэрвеня 1892, Гарадскі тэатр). Праз колькі дзесяцігоддзяў Прага стане прытулкам Міхася Забэйды-Суміцкага. А пакуль жа ў сталіцы Чэхіі гучыць голас Г. Жарабцовай. Следам за Прагай яна на працягу двух гадоў выступае з канцэртамі ў гарадах Германіі: удзячная публіка вітае спявачку ў Берліне, Кёнігсбергу, Дрэздэне, Лейпцыгу, Гамбургу. Партыю фартэпіяна выконвае А. Рубінштэйн. Пазней Жарабцова гастралюе ў Амстэрдаме, Гаазе, Ротэрдаме, Парыжы, Лондане, дзе давала сольныя канцэрты, прымала ўдзел у сімфанічных вечарах.

Праз некаторы час наша землячка вяртаецца ў Расію. Вядзе актыўную канцэртную дзейнасць, выступае з гастролямі ў Пецярбурзе, Маскве, Кіеве, Адэсе, Харкаве, Ніжнім Ноўгарадзе... Дарэчы, у 1894 годзе ў Адэсе Жарабцова выступае ў сімфанічным канцэрце пад кіраўніцтвам Рымскага-Корсакава. І недзе ў гэтыя ж гады маладая, але ўжо вопытная, вядомая ў Расіі і ў Еўропе спявачка прыязджае ў горад свайго дзяцінства — у Гародню.

На вялікі жаль, немагчымым падаецца расшукаць нейкія фактаграфічныя сведчанні гастроляў Жарабцовай у Гародні. І усё ж... Можна сёе-тое ўявіць з тых далёкіх дзён.

Згадаем гарадзенскую Каложу — царкву, збудаваную ў візантыйскім стылі. Яе сцены маюць у сярэдзіне ўмураваныя гаршкі — галаснікі для лепшага гуку спеваў. Ці прыходзіла да Каложскае царквы спявачка? Як мне падаецца, не магла не прыйсці. Каложская царква давала шанц правесці эксперымент са сваім голасам, з большай дакладнасцю разгледзець яго адценні, фарбы. Лічылася, што ў Жарабцовай было мецца-сапрана. Італьянскае mezzo перакладаецца як "сярэдні". Сапрана ж — "самы высокі пеўчы (жаночы або дзіцячы) голас". Звычайна сэнс у вымярэнне "сапрана" укладваўся наступны: "Каларатурнае сапрана... лірычнае сапрана". Выпрабаваць адценні, паслухаць гаму пераліваў, здаць самой сабе экзамен — лепшага месца на тое, чым Каложа, не знайсці. А вечарам — да ўважлівых і патрабавальных слухачоў. Правінцыйным па тым часе музычнае жыццё горада не назавеш. У Гародні працаваў выпускнік Пецярбургскай кансерваторыі арганіст і кампазітар І. Глінскі. А ў 1883 годзе было арганізавана літаратурна-музычнае таварыства. У Гародні гастралявалі Г. Есіпава, В. Давыдава, С. Рахманінаў...

Што ж было ў рэпертуары Жарабцовай? Першай наша землячка выканала рамансы С. Рахманінава "Мелодыя", "Лёс", А. Глазунова "Мелодыя", А. Арэнскага "Шчасце", І. Стравінскага, С. Пракоф'ева. Многія вакальныя творы К. Дэбюсі, М. Равеля, Э. Шассона, Р. Штрауса ўпершыню прагучалі ў Расіі ў выкананні Жарабцовай-Андрэевай. Спявачцы прысвяцілі свае рамансы Рымскі-Корсакаў ("Ангел", "Па небу апоўначы"), А. Арэнскі ("Паэзія"), А. Рубінштэйн.

У 1907—1922 гадах наша землячка выкладала сольныя спевы ў Пецярбургскай кансерваторыі (з 1913 года — прафесар). У сваёй педагагічнай практыцы Ганна Рыгораўна абапіралася на традыцыі вакальнай школы Н. Ірэцкай. Тая працавала поплеч, заўсёды адгукалася на запыты сваёй маладзейшай калежанкі, сваёй колішняй вучаніцы. А шмат хто з вучняў ужо Жарабцовай-Андрэевай пакінуў свой след у гісторыі музычнага мастацтва Расіі: гэта З. Арцем'ева-Ляонцьеўская, М. Брыан, Л. Кіч, Я. Малініна. Урокі спеваў у нашай землячкі брала і Зоя Лодзій. Тая самая легендарная Лодзій, унучка Лодзі Лодзія, дачка Пятра Лодзія... Зоя Лодзій, дзякуючы каторай на доўгія дзесяцігоддзі да ўдзячнага слухача прыйшоў раманс "Где вы, счастливые дни".

Сёння імя Г. Жарабцовай-Андрэевай — у забыцці. Сучасніку зусім невядомы яе ўклад у музычную культуру, яе жыццё, поўнае багатых і ўражлівых падзей. Дык, можа, гарадзенцы першымі парупяцца пра вяртанне памяці аб выдатнай спявачцы апошняга дзесяцігоддзя XIX — пачатку XX стагоддзя?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**

Памяркуем

# ГЭТА НІЯКАЯ НЕ ДРАБНІЦА...

У народных песнях выяўляецца характар, тэмперамент, светапогляд таго ці іншага этнасу. Калі прадоўжыць гэты пералік, то з поўным правам можна сказаць, што ў песнях відны і недахопы народнага характару, і хібы ладу жыцця, і многае іншае.

Што падштурхнула мяне да такіх разваг? Беларуская народная песня "Дробна драбніца", надрукаваная ў традыцыйнай рубрыцы "Звязды". Не тое, каб я не чула яе, не ведала зместу. І чула, і ведала, і падпявала мо не раз. Але адно — успрымаць тэкст на слых, і зусім іншае — бачыць, чытаць яго вачамі, калі ён прадстае без меладычных акрас, ва ўсёй сваёй сэнсавай "галізне".

Нагадаю сюжэт песні. Сабралася "бедна галота" (у другіх варыянтах — басота) і весяліцца: п'е мёд (мабыць, медавуху), гарэлку, віно. Кампанія ўжо "цёпленькая" і настроена досыць агрэсіўна: "А хто к нам прыйдзе, будзе смяяцца — будзем біць таго". А тут, як на тое, і госць надарыўся — той самы старонні і цвярозы назіральнік, які можа падняць на смех. Гэта не іхняга поля ягада: чалавек багаты. Найперш яму стала цікава, а за што ж гэтая голь п'е? На пытанне не адказалі (і так ясна — апошняе прапіваюць) і прапанавалі далучыцца да кампаніі, выпіць разам. Той, аднак жа, парушае законы гасціннасці, адмаўляецца. На "дурніцу", пэўна, не прывык, а сваіх не то шкада, не то сапраўды купюра буйная, сотка, і недзе размяняць. З-за такой непавагі вынікла бойка: нязванага госця натаўклі і выкінулі.

Добра разумею: гэткі літаральны пераказ жартоўнай песні выглядае парадыйна, і не адзін фалькларыст перасмыкнецца, прачытаўшы яго. Тым не менш — з песні слова не выкінеш; я нічагусенькі не прыдумала "ад сябе", адно абстрагавалася ад плаўнай мелодыі і выразнага рытму, якія ў песні нясуць не меншую, а, можа, і большую нагрузку, чым яе змест. Дарэчы, існуе і асучаснены варыянт "Драбніцы":

**Не хадзі ты, дзядзька багаты,**
**Дзе студэнцтва п'е...**

Вядучы звяздоўскай рубрыкі Міхась Шавыркін — сімпатычны, светлага пачатку чалавек — у сваім каментарыі да песні імкнецца скіраваць нашу ўвагу ў іншы бок: "за бяседаю (пры застоллі) ідзе яднанне людзей, адбываецца гартаванне іхняга духу". Маўляў, сабраліся не каб напіцца, а каб здружыцца. Тут ёсць рацыянальнае зерне: спіртное аб'ядноўвае нават там, дзе няма іншых падстаў для яднання. За чаркай добра перамываць косточкі, плесці інтрыгі, выпрацоўваць сумесныя планы — і то не ў кагале, а самнасам. Што застолле падчас прыўзнімае, адухоўлівае — чыстая праўда. Вось толькі — якое застолле? У нашай "Драбніцы" нават намёку няма на сямейнае ці якоенебудзь іншае свята — вяселле, талаку, радзіны, хрэсьбіны... Проста "пагудзець" сабраліся мужыкі. Дык і не дзіўна, што гульба скончылася бойкаю. Тое самае будзе, як дадому прыйдуць, да жонак...

Слушна заўважана ў каментарыі, што стрыжнем песні з'яўляецца сацыяльны канфлікт: галота апалчылася на багатага, які не пажадаў выпіць за яе здароўе. Такі сацыяльны падтэкст наводзіць на сур'ёзныя развагі адносна нашага сённяшняга жыцця-быцця. Даўно вядома, што беднасць і п'янства — "близнецы-братья". Не заўсёды нават адрозніш, дзе прычына, а дзе следства. Выраб спіртнога заўсёды быў манаполіяй дзяржавы, і яна ніколі не грэбавала такім спосабам папаўняць сваю казну. І толькі падчас жніва зачыняюцца ўсе сельскія крамы: уступае ў сілу сухі закон мясцовага значэння. Колас не будзе чакаць, пакуль праспіцца камбайнер.

Як вынікае з сусветнай практыкі, высокі ўзровень дастатку не прадугледжвае вялікай цягі да спіртнога і, больш таго, сулярэчыць ёй. І таму што заможныя людзі ведаюць цану капейцы, і таму што толькі на цвярозую галаву можна прыдумаць, як тую капейку прыдбаць, і таму што заможнасць патрабуе большай ступені занятасці і большага працалюбства. У Японіі рабочыя застаюцца пасля працы не для таго, каб "паддаць" (нашыя гэта робяць без адрыву ад вытворчасці), а каб сумесна ўдасканаліць той ці іншы вытворчы працэс.

Ёсць хлебасольныя славянскія традыцыі, а ёсць і савецкія звычкі. Варты сацыялагічнага даследавання і навуковага асэнсавання феномен усебеларускага ўцягвання ў п'яную вакханалію. П'юць акадэмікі і міністры, хірургі і пракуроры, дыктары і дырэктары, п'е як не ў сабе тэатральная тусоўка, не адстае наш братпісьменнік (таксама, мабыць, у інтарэсах яднання). Прыклад паказваюць зверху. Грандыёзнай п'янкай закончылася сёлета Купалле на вышэйшым узроўні ў Шклове. А потым будзе, як у вершы Вадзіма Шэфнера:

**Спят отважные, спят неважные,**
**Вьюга треплет венки бумажные...**

І ў адзіноце будуць дажываць свой век "скарапасціжна" пакінутыя ўдовы...

Як аднойчы паведамлялася па радыё, па дадзеных наркалагаў у Беларусі алказалежным з'яўляецца практычна **кожны чацвёрты мужчына.**

А зараз трошкі звестак з псіхалогіі. Алкаголь — від наркотыку. У адрозненне ад астатніх, больш моцных, выводзіцца з арганізма за двое сутак. Але нават аднаразовы яго прыём падаўляе выпрацоўку **эндарфінаў** — натуральнага наркатычнага рэчыва, якое дае тонус і настрой. Пытанне стаіць так: або павышаць тонус штучна, спіртным (што ўтварае залежнасць ад яго), або цярпець і чакаць, пакуль запрацуе ўласная малая "фабрыка".

А вось як алкагольная залежнасць выглядае з пункту гледжання акультных навук. Да аўры кожнага пачынаючага ці са стажам алкаголіка прысмоктваецца так званая "лярва" — энергетычны чорны згустак, які літаральна высмоктвае сваю ахвяру, імкнецца яе загубіць.

На метафізічным узроўні праблема фармулюецца наступным чынам: кожны з нас сам выбірае свой шлях і свой жыццёвы накірунак. Могуць быць адно лёгкія знакі-падказкі — ці туды рухаешся. Нішто не прымушае чалавека быць маральным супраць яго волі. Хочаш удасканальваць душу і служыць дабру — служы. Хочаш апускацца і траціць чалавечы воблік — трать. Толькі ты бярэш на сябе вялікую адказнасць, і нават дзеці твае і ўнукі могуць адпакутаваць за твой грэх, або, як кажуць астролагі, "адпрацаваць".

...Колькі іх навокал — сініх тварамі, страшных, "заразных" для асяроддзя, страчаных для грамадства, небяспечных для сем'яў... А нас яшчэ палохалі нейкай карупцыяй! Ды карупцыя — гэта драбніца ў параўнанні з нацыянальным бедствам — п'янствам. Няўжо ніхто з палітыкаў не дадумаецца да "антыалкагольнай камісіі" ў парламенце? Няўжо ніводная з жаночых арганізацый не возьме на сябе клопату за духоўнае і фізічнае здароўе нацыі?

Гэта якраз той выпадак, калі "тапелец" павінен выратаваць сябе сам. Бо атручанаму, здэградаванаму чалавеку ўсё роўна, у якой дзяржаве жыць і якой уладзе падпарадкоўвацца.

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**

---

У спаміны

# ЯГО СЯБРОЎКА

Калі вывучаем, чытаем, слухаем творы пісьменніка, паэта ці іншага дзеяча культуры альбо яго біяграфію, мы часта забываем аддаць належную ўвагу сяброўцы яго жыцця — жонцы. Калісьці Леў Талстой гаварыў, што каб у кожнага пісьменніка была такая клапатлівая жонка, як у Ф. М. Дастаеўскага Анна Рыгораўна (1846—1918), то ён змог бы дабіцца большага.

Мне невыпадкова ўспомніліся гэтыя словы. На пачатку 50-х я, жонка і сын былі суседзямі па доме ўдавы Янкі Купалы Уладзіславы Францаўны Луцэвіч. Мы жылі ў доме, што стаіць па завулку Омскаму, што каля плошчы Перамогі ў Мінску (двухпавярховы дом N 7). Гэта было ў 1950—52 гг. Прайшло больш як 40 гадоў, а і цяпер, здаецца, чуеш яе ласкавы голас, бачыш вельмі добры, прыветны пагляд. Уладзіслава Францаўна ў той час была арганізатарам і дырэктарам музея Янкі Купалы, што знаходзіцца і цяпер у парку каля рэчкі Свіслач.

Цётка Уладзя, невысокага росту, крыху паўнаватая, чорнавалосая, уставала вельмі рана. У цёплы час года, калі толькі ўзыдзе сонца, яна ўжо корпаецца ў сваім маленькім гародзіку, даглядае кветкі. Вельмі любіла разводзіць тыя кветкі, што сустракалі мы на лугах, у полі, у лесе, ля дарог.

"Яны нагадваюць мне Купалу, — гаварыла цёця Уладзя, — ён заўсёды з замілаваннем глядзеў на палявыя кветкі, ніколі не рваў іх. Навошта іх знішчаць, — гаварыў ён, — кветкі як нішто ўпрыгожваюць нашу зямлю, жыццё, яны растуць толькі для людзей". Па яе расказах Купала, як і яна сама, быў аматарам роднай прыроды. Ён лічыў, што Беларусі ў гэтым сэнсе пашанцавала. Наш ландшафт сваёй прыгажосцю, разнастайнасцю, колерамі, лясамі і далінамі, вадаёмамі і пагоркамі радуе і натхняе чалавека. Нават воблакі асаблівыя. Наша прырода робіць чалавека добрым, міласцівым, казаў ён.

Пасля смерці мужа Уладзіслава Францаўна аддала ўсё сваё жыццё служэнню, збіранню яго спадчыны. Дзякуючы яе клопатам, мы ведаем Янку Купалу больш дэталёва. Акрамя таго, з яе расказаў вядома, што яна была першай чытачкай твораў мужа і першым яго крытыкам. З яе думкамі і ўражаннем паэт лічыўся, бо яна сама была аўтарам вершаў для дзяцей, педагогам.

Цётка Уладзя вельмі шанавала радзіму мужа. Ведаючы, што я з Уздзенскага раёна, гаварыла, што збіраецца зноў паехаць у вёску Луцэвічы, Лазаровічы, Пяскі, што каля мястэчка Магільнае. Там жылі продкі Купалы. "Нейкая Боская сіла кліча мяне туды" — казала яна. Цёця Уладзя была веруючая. "Кожны чалавек павінен верыць. Вера — гэта духоўнае пачуццё сваёй годнасці. Светам кіруе вера", — гаварыла яна.

У выхадныя дні, пасля ранішняга агляду кветак, яна звычайна заходзіла да нас, на першы паверх, дзе мы кватаравалі. Завязвалася гаворка, найчасцей пра настаўніцкую работу. Уладзіслава Францаўна сказала неяк, што ў педагога павінен быць асаблівы характар. Калі хочаш прысвяціць сябе гэтай прафесіі, трэба нястомна авалодваць педагагічным майстэрствам. Сама цётка. Уладзя мела вялікія веды ў гэтай галіне, нават яе размовы былі з педагагічным ухілам. Спачатку яна нібы знарок даверліва пыталася ў субяседніка: "Як вы думаеце вось пра гэта?" І, цярпліва выслухаўшы, разбірала сказанае, тлумачыла, у чым справа, хто ў чым памыляецца. Яе крытыка была не надакучлівай, а спагадлівай, лагічнай, сяброўскай. Вышэй за ўсё яна цаніла любоў да выхаванцаў, да дзяцей. "Любоў, — гаварыла яна, — перадаецца не так словамі, як самім пачуццём".

Што гэта не проста словы, бачна было і па адносінах да нашага малога сына Славіка. Яна і частавала яго не раз, і падарункі купляла... Мы з жонкай нават крыху раўнавалі, калі праўду сказаць.

Яе характар, яе дабрыня, міласэрнасць адлюстроўваюць той сямейны мір, які панаваў у сям'і вялікага паэта. Нядаўна мы зноў заходзілі ў дом, дзе жылі тады з Уладзіславай Францаўнай Луцэвіч. Пачалі ўспамінаць. Неўзабаве хтосьці пастукаў у дзверы. Здавалася, што вось-вось зноў увойдзе яна... Нездарма кажуць: чалавек жыве вечна ў памяці людзей. Яго душа жыве з намі...

**Станіслаў ШКАДЗІНСКІ,**
педагог

---

# ЧАС І МЕСЦА

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

Да прыкладу, што свабода — гэта найперш маладосць, і ў гэтым сэнсе чалавеку лепей, чым было — не будзе...

Што пажаданае хутчэй збываецца тады, калі перастаеш яго чакаць, вызваліўшыся з палону гэтага жадання...

І што самы лёгкі спосаб адчуць уласную значнасць — гэта пераканаць сябе ў нечай віне перад сабою.

А аднойчы мільганула чамусьці, што купалаўскія словы 1908 года: "Людзьмі звацца" — ці не залішне ўжо сціплыя слова як мэта нацыянальнай самасвядомасці?..

ЁСЦЬ нешта загадкавае, а для мяне дык проста містычнае ў тым, што, бывае, звязвае нейкае месца на зямлі з часам наогул — а мо наадварот. І ў тых нашых перакрыжаваннях у часе і прасторы з чымсьці зусім чужым, далёкім, што не змяняюць ліній ні жыцця, ні лёсу, аднак быццам бы маюць нейкі патаемны сэнс, які пакутліва шукае свайго выйсця і хоча даць уведаць пра сябе...

Апошняй зімой чытаю, што ў Парыжы адбылася прэзентацыя кнігі Нормана Мейлера "Гісторыя Освальда: амерыканская містэрыя". А месяцы два перад гэтым я сам трымаў у руках тую кнігу, дасланую аўтарам з ЗША маёй стрыечнай сястры з удзячнасцю за дапамогу ў збіранні ў Мінску матэрыялу пра Освальда, што жыў тут адзін час, і Марыну, ягоную жонку, якая працавала раней у аптэцы разам з маёй сястрой... І бачыш, як цягнецца нітка... Памятаю, сын, пабачыўшы тады Мейлера, казаў: "Вочы ў яго такія, ведаеш, гаротна-недаўменныя, — і бровы гэтаксама выгнуты"... Наша сям'я часта бывала ў доме маёй сястры, дзе былі некалі і Марына з Освальдам. Мы сядзелі ў тым самым пакоі, за тым самым сталом. Мы разглядалі фотаздымкі яе ўжо амерыканскага замужняга жыцця. І ні пра што яшчэ наперад не здагадваліся...

І вось цяпер я думаю — як бы за сястру і разам з ёю: аднойчы ў тваім доме з'яўляецца чалавек, які потым жэніцца на тваёй знаёмай і вяртаецца з ёю за акіян. А пасля ездзе там у другі горад — Далас, Тэхас — і з вакна кніжнага склада забівае свайго прэзідэнта, Кенэдзі — адзін ці з іншымі (Мейлер: забойца — Освальд); а праз колькі дзён нейкі Джэк Рубі забівае арыштаванага Освальда — і мы гэта бачым на тэлеэкране ў тым жа доме, дзе некалі сядзеў Лі Харві Освальд з Марынай, дзе і знутры, і звонку — утульны двор, і кусты бэзу, і калітка, — усё наша, даўнае і звыклае...

Дык навошта ж, навошта ўсё гэта нашае перакрыжоўвалася, зыходзілася ў часе і прасторы з усім такім далёкім і чужым? З той гісторыяй,

якая апісана ў кнізе,

якую мы нядаўна гарталі з маім амерыканскім студэнтам Джэфры Бракхаўзам,

якога шчаслівя абышоў дома, у Аклахома-сіці, вар'яцкі выбух тэрарыстаў

і які прыехаў вучыцца ў наш горад...

І так — бясконца, па бясконцым крузе, па меншай меры, да таго дня ў мінулым жніўні, як сястра сказала, што Марына жыве цяпер недзе на ферме свайго другога мужа і ад Освальда ў яе дзве дачкі. Ужо дарослыя, падумаў я. А сястра дадала, што тэлебачанне ізноў паказвае бежанцаў на дарогах Чачні — яны ратуюцца ад бамбёжак: "Зусім як мы ў сорак першым, уяўляеш?" І я адказаў тады, што ўяўляю, а зараз бачу, што вяртаюся тут, гэтаксама па крузе, да таго, з чаго і пачаў.

Дык хіба адвечную і суцэльную містэрыю жыцця лягчэй зразумець, пазначыўшы яе амерыканскай ці якой іншай?

І ці ёсць ва ўсім гэтым нейкая сувязь — і што, у рэшце рэшт, я шукаю, чаго намагаюся даўмецца?

Цяжка сказаць. Адно здаецца мне, што некаторыя рэчы на свеце можна лепей зразумець з пытанняў, чым з адказаў — хай іх і тычкаюць табе ў вочы з тэлевізара па некалькі разоў на дзень.

*Фота А. ГЛІНСКАГА*

## ЛЯ ВЫТОКАЎ БІЯГРАФІЧНАГА ЖАНРУ

**стаяў вядомы яўрэйскі пісьменнік Уры Фінкель, з дня нараджэння якога споўнілася 100 гадоў (памёр 5 снежня 1957 года). Родам У. Фінкель з мястэчка Ракаў Валожынскага раёна. Вучыўся ў політэхнічным вучылішчы ў Харкаве, на філалагічным факультэце Маскоўскага універсітэта. Прымаў удзел у грамадзянскай вайне. Працаваў у Наркамасвеце РСФСР, а з 1921 года з'яўляўся літработнікам выдавецтва Наркамасветы БССР. Праз год перайшоў на журналісцкую працу. У 1926 годзе У. Фінкель экстэрнам здаў экзамены на літаратурна-лінгвістычным аддзяленні педагагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта, у 1931 годзе скончыў аспірантуру пры Акадэміі навук Беларусі. Выкладаў у Мінскім педагагічным інстытуце. У гады Вялікай Айчыннай вайны быў эвакуіраваны. З 1949 па 1953 год выкладаў у Ракаўскай сярэдняй школе рускую літаратуру. Апошнія гады жыў у Мінску.**

**Пісаў У. Фінкель у асноўным на мове ідыш (друкавацца пачаў з 1918 года). Аўтар біяграфічных кніг пра класікаў яўрэйскай літаратуры "А. Гольфадэн" (разам з Н. Айслендарам, 1926), "Шолам-Алейхем" (1938, на беларускай мове ў 1939 і 1958 гадах), "Мендэле Мойхер-Сфорым" (1939, на беларускай мове ў 1940 годзе). Тыраж кнігі пра М. Гордана быў знішчаны ў 1941 годзе ў час акупацыі.**

**Уры Фінкель напісаў таксама гісторыка-этнаграфічныя нарысы пра П. Шэйна, М. Нікольскага, артыкулы пра творчасць Я. Купалы, Я. Коласа, З. Бядулі і іншых.**

## МАГІЛЁЎСКІ "ВЯНОК"



**Ансамбль танца "Вянок" Палаца культуры завода штучнага валакна Магілёўскага вытворчага аб'яднання "Хімвалакно" пачынаў 35 гадоў назад з выканання беларускіх народных танцаў. Потым у яго праграме з'явіліся і танцы іншых народаў — самабытнаму мастацкаму калектыву апладзіравалі ў Балгарыі і Германіі, Францыі, Польшчы і Канадзе. Вярнуўшыся толькі што з замежных гастроляў, неаднаразовы лаўрэат многіх фестываляў зноў рыхтуецца да выступленняў як у сваёй краіне, так і за яе межамі.**

*На здымку: ансамбль танца "Вянок".*

*Фота Анатоля МАРУШЭЎСКАГА, БЕЛТА*

## У "КАЎЧЭГ" ПАТРАПІЛА... ГІТАРА

**Ходзяць чуткі (дайшлі яны і да нас), што гэтая аўдыёкасета, выпушчаная вядомай мінскай фірмай "Каўчэг" у колькасці адной тысячы штук, ужо разышлася, а чарга пакупнікоў не надта зменшылася, і яны патрабуюць яшчэ... Мабыць, давядзецца ўпадабаную касету "выдаць на "біс". І хто б мог падумаць, што запісы беларускай музыкі займеюць такі попыт! На касеце ж — не "папса" і нават не папулярная класіка. Пад назваю "Беларуская гітарная музыка" сабраны творы нашых сучаснікаў: Валерыя Жывалеўскага ("Элегія памяці Сяргея Палуяна" ды "Сікстынская мадонна"), Галіны Гарэлавай ("Мірскі замак"), Аляксандра Літвіноўскага ("Intavolatura"), Яўгена Паплаўскага ("Навела для гітары, струннага квартэта, з керамічнымі звонікамі"). Арыгінальная музыка ў выдатным выкананні Яўгена Грыдзюшкі, Валерыя Жывалеўскага, Ансамбля салістаў "Класік-Авангард" пад кіраўніцтвам Уладзіміра Байдава — сакрэт папулярнасці новай аўдыёкасеты просты і натуральны. Да таго ж, даверлівы і пранікнёны голас акустычнай гітары на Беларусі любілі спрадвек. Так што сачыце за навінкамі музычных шапікаў: мо і вам пашанцуе прычыніцца да сучаснай беларускай гітарнай творчасці? Яна не проста вартая цікаўнасці, яна — для душы, дайце веры...**

**С. Б.**

# АПОШНЯЯ АКЦЫЯ КАЛАБАРАНТАЎ

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

перастануць дэнацыяналізаваць, як гэта рабілася перад вайной, маладыя пакаленні беларусаў набудуць доўгажаданы нацыянальны характар. Верыў у гэта і настаўнік з больш чым 40-гадовым працоўным стажам М. Дзямідаў, які ўдзельнічаў у рабоце Другога Усебеларускага Кангрэса. У сваім выступленні ён даў такую ацэнку тагачаснай адукацыі: "Нашы школы адразу набылі нацыянальны колер. Зараз у нас школы выхоўваюць не ворагаў беларускага народа, а шчырых патрыётаў, якія гатовы аддаць усё жыццё за дабрабыт свайго краю і свайго народа". І сам прэзідэнт Кангрэса Я. Кіпель прызнаў у сваёй прадмове, што "ў галіне асветы мы стаім далёка не на апошнім месцы ў параўнанні з суседнімі *народамі, ахопленымі вайной*".

Само сабою, нямецкія ўлады, даючы дазвол на правядзенне Другога Усебеларускага Кангрэса, зусім не збіраліся рэальна дапамагчы якім-небудзь сілам беларускага народа ў набыцці сапраўднага нацыянальнага суверэнітэту. Удзельнікі Кангрэса, якіх пазней справядліва будзе крытыкаваць Л. Цанава, "маўчалі, чаму фашысты за 3 гады свайго гаспадавання на Беларусі... ні разу не сабраліся ўспамянуць пра самастойнасць Беларусі, пра прызнанне яе незалежнасці і загаварылі пра гэта толькі цяпер, калі акупанты... спрабавалі выратавацца з Беларусі ўцёкамі". Бясспрэчна, і на дадзены момант мэта ў ворагаў была ўсё адна і тая ж: мацней прывязаць гэты гарапашны, раз'яднаны вайной на дзве часткі народ да *фашысцкага рэйху і сумесна з ім весці змаганне* з Чырвонай Арміяй, якая імкліва рухалася на захад. Пра такія падыходы акупантаў да беларусаў пераканаўча сведчыць прывітальнае пісьмо генеральнага камісара генерала фон Готберга прэзідэнту БЦР Р. Астроўскаму, якое зачыталі ўдзельнікам Кангрэса: "... веру, што беларускі народ рашуча, супольна з народам нямецкім будзе змагацца супроць бальшавіцкай небяспекі за вызваленне Еўропы і што ён узмоцніць і аддасць для гэтае мэты ўсе свае сілы. Тады гэтае цяжкае змаганне дасць перамогу, каторая і беларускаму народу прынясе шчаслівую будучыню".

Як бачым, маніпуляцыя паняццем "беларускі народ" у прыведзенай цытаце вельмі навідавоку. Не верыцца, што ўсе ўдзельнікі Кангрэса *падзялялі сказанае фон Готбергам, хаця да* гэтага іх усяляк стараўся схіліць і прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі. У зачытаным ім адказе фон Готбергу прагучала, што "прадстаўнікі ўсяго беларускага народа ...рашуча стануць на баку змагароў за вольную Еўропу, ведучы гэтае змаганне датуль, пакуль не будзе асягнена канчатковая перамога". Гаварыць такое ў час, калі амаль на ўсёй лініі нямецка-савецкага фронту, які праходзіў праз Беларусь, пачалося адступленне войскаў фашысцкага вермахту, не было аніякай падставы. Дарэчы, вельмі любілі апеляваць да беларускага народа і іншыя выступоўцы, раз за разам выказваючы свае думкі ад яго імя. Назваўшы Другі Усебеларускі Кангрэс гістарычным, прадстаўнік Беларускай краёвай абароны капітан В. Чабатарэвіч працягваў: "Сёння ўвесь беларускі народ выяўляе праз вусны сваіх лепшых сыноў, тут, у гэтай залі, сваю волю, выказвае свае нацыянальна-палітычныя правы і жаданні. Воля беларускага народа з'яўляецца для нас, беларускіх жаўнераў, святой і нашым найвышэйшым абавязкам. Мы — там, дзе ўвесь беларускі народ, мы — там, дзе волю беларускага народа трэба ўзмоцніць са зброяй у руках, бо для нас зусім ясна, што перад намі стаіць адна толькі *праблема — быць або не быць*".

Ад старэйшых добра навучыліся эксплуатаваць паняцце "беларускі народ" і самыя маладыя пакаленні, што працавалі ў розных арганізацыях, створаных з дазволу акупантаў. Тыповымі тут могуць быць такія словы з прывітання Кангрэсу ад Саюза беларускай моладзі, якое прамовіў Міхаіл Ганько: "Беларусь чакае, што з гэтае трыбуны будзе выяўлена вялікае імкненне нашага народа да волі, што будзе дадзены горды адказ на бальшавіцкія рабаўніцкія планы... Цяпер, мы, беларусы, хочам ізноў перад тварам усяго свету заявіць, што не жадаем насіць на сваёй шыі ланцугоў няволі, што хочам жыць вольна ў сваёй роднай хаце, на сваім родным загоне".

Добра вядомая ў 30-х гадах сярод дашкольных работнікаў рэспублікі Апалонія Савёнак таксама не забылася ў сваім выступленні абаперціся на волю народа. Яна зачытала прывітанне Кангрэсу ад імя беларускіх сялян, работнікаў і інтэлігенцыі. Як і ўсе іншыя выступоўцы, не шкадавала чорных фарбаў для паказу сацыялістычнага рэжыму і яго стваральнікаў — бальшавікоў. Вось толькі некалькі слоў з прачытанага ёю прывітання: "Беларускія сяляне і работнікі з вялікай радасцю віталі акцыю, якая знесла бальшавіцкі калгасны прыгон сялянства і бессаромную эксплуатацыю работнікаў пад выглядам спаборніцтва і стаханаўшчыны... Беларуская ж інтэлігенцыя, гэтая кроў ад крыві і косць ад косці беларускіх сялян і работнікаў, нашая ахвярная інтэлігенцыя, якая ў найгоршыя часы не апускала рук, а мужна змагалася за шчасце Радзімы і якая перанесла столькі маральных і фізічных пакут ад нашых ворагаў — палякаў і бальшавікоў, — не жадае сёння нічога больш, як толькі свабодна працаваць на карысць свайго народа..."

Далі магчымасць прывітаць Кангрэс і прадстаўнікам духавенства. А ім, між іншым, было што сказаць, бо фашысцкая акупацыя, у адрозненне ад бальшавіцкага рэжыму, не перашкаджала беларускаму народу будаваць сваё рэлігійнае жыццё паводле раней усталяваных духоўных традыцый. Важнай падзеяй для праваслаўнай царквы стала правядзенне ў жніўні — верасні 1942 г. у Мінску Усебеларускага Праваслаўнага Сабора. Архіепіскап Філафей прасіў Кангрэс паклапаціцца пра адбудову рэлігійна-маральнага характару беларускага народа, *заяўляючы: "Калі ідзе аб змаганні з бальшавіз*мам, дык трэба ведаць, што хрысціянская культура з'яўляецца найбольшым ворагам бальшавізму. У барацьбе за лепшую долю трэба вырабіць светапагляд праціўны бальшавізму — светапагляд хрысціянскае культуры".

У прывітанні Кангрэсу ад прасвітара грамады баптыстаў Дзекуця-Малея найбольш характэрныя наступныя словы: "Нас, баптыстых, нямнога, яшчэ за цара мы былі праследаваныя, цяпер у Беларусі мы жывём вольна". Ксёндз Пётра Татарыновіч у прывітальным слове падкрэсліў неабходнасць "і на сягоння і на прышласць... супрацоўніцтва ў беларускай адраджэнскай працы".

Прывітанні Другому Усебеларускаму Кан*грэсу паступілі таксама* ад Кёнігсбергскага аддзела Беларускай народнай самапомачы, жаўнераў парадкавай Службы ўсходняга фронту (першая беларуская збройная арганізацыя). Апошнія паабяцалі "сваю зброю не выпусціць з рук, пакуль не застанецца ніводнага ворага на нашай беларускай зямлі". Каго яны тут разумелі пад ворагам, думаю, не трэба тлумачыць.

Адвядзенне шмат часу на зачытанне прывітанняў Кангрэсу, акрамя ўсяго іншага, яшчэ можа разглядаецца і як факт, што яго арганізатары зусім не мелі жадання як мага хутчэй закончыць распачатую імі акцыю.

Пасля справаздачы Прэзідэнта БЦР Р. Астроўскага другой важнай часткай Кангрэса быў *рэферат віцэ-прэзідэнта* БЦР М. Шкялёнка. Яму, як і папярэдняму выступоўцу, трэба аддаць належнае ў захаванні надзвычай вялікага аптымізму на будучае, што вынікае хаця б з наступных слоў: "...вайна змяла з нашых земляў стары польска-бальшавіцкі лад і стварыла на яго руінах магчымасці пабудовы новага, у якім Беларускі Народ хоча быць і будзе ўжо не аб'ектам, а суб'ектам права". Пачаў жа М. Шкялёнак здаля, з разгляду заключаных пасля 1917 г. расійска-польскіх дагавораў, цалкам адмаўляючы іх праўную сілу з-за таго, што былі навязаны Беларусі гвалтам. Каб даць удзельнікам Кангрэса найлепш зразумець сутнасць пытання, М. Шкялёнак зрабіў досыць падрабязны экскурс у гісторыю адносін Беларусі з Масквой і Польшчай, якому не так проста запярэчыць. Датычыць гэта, напрыклад, яго стаўлення да канфесійнага фактару. Прыналежнасцю рускіх і пераважнай большасці беларусаў да праваслаўя ніяк нельга апраўдаць войны маскоўскага князя Івана III і яго наступнікаў з мэтай далучэння Беларусі да сваёй дзяржавы. Аб'ектыўная ацэнка даецца ўсялякага роду уніям, якімі ўжо наш заходні сусед ставіў задачу "асягнуць уключэнне беларускага гаспадарства ў склад Польскае Рэчыпаспалітае". Менавіта *ў выніку захопніцкай палітыкі* гэтых дзвюх краін, сцвярджаў М. Шкялёнак, так сталася, што "паступова ў Заходняй Еўропе вырабіўся погляд, што Беларусь, яе штосьць апрычонае, не існуе, што гэта толькі геаграфічны назоў бліжэй неазначанай тэрыторыі, якая з'яўляецца прадметам маскоўска-польскіх спрэчак. Гэтыя спрэчкі вяліся ў тым кірунку, што Масква даводзіла "истинно русский" характар Беларусі і яе прыроды, а палякі, паклікаючыся на яе прысабечаную гісторыю і перакручваючы сэнс уніяў, ды на кожным кроку гаворачы аб сваёй быццам выкананай культурнай місіі, — цвердзілі аб яе польскасці. Ужо гэтая супярэчнасць поглядаў нашых суседзяў на нацыянальна-культурную сутнасць Беларусі, дыяметральная розніца паміж гэтымі поглядамі паказвала, што ў аснове іхніх прэтэнзіяў да Беларусі ляжаць выключна імперыялістычныя імкненні, а не якоесь права. Але нават у гэтых спрэчках за Беларусь наглядаецца пэўны кампраміс і згода. Відавочна, абое адчувалі, што бароняць не сваё, а толькі хочуць захапіць чужое".

У рэфераце М. Шкялёнка больш-менш правільна асветлены прычыны адмоўнага стаўлення Масквы і Польшчы да беларускага нацыянальнага адраджэння, якое пачалося ў XIX стагоддзі, да незалежніцкай ідэі Першага Усебеларускага Кангрэса (снежань 1917 г.), Беларускай Народнай Рэспублікі. Рыжскі трактат 1921 года аб падзеле нашай зямлі паміж Савецкай Расіяй і Польшчай названы ім "найвялікшым злачынствам бальшавіцкай Масквы ў дачыненні да Беларусі". Ролю Масквы *ў падзеле апошняй ён лічыць больш агрэсіўнай,* чым Польшчы, прыводзячы такі факт, польскі прадстаўнік на перамовах "Домскі адмовіўся ад далучэння да Польшчы Менска, які суліў яму бальшавік Іофе", што ўзначальваў дэлегацыю ад РСФСР. "Адмовіўся даслоўна таму, што гэта было б лішне вялікай "беларускай скулай" на польскім целе, інакш кажучы — палякі не спадзяваліся яе стравіць". Звярталася ўвага і на такую з'яву, як амаль адначасова і ва Усходняй, і ў Заходняй Беларусі нішчэнне беларускай інтэлігенцыі — у Польшчы пад закідам камунізму, а ў Саветах — фашызму. (...) у дачыненні да нас Масква і Польшча мелі тыя самыя мэты і стасавалі прыблізна тую самую тактыку нішчэння, толькі зразумела, у бальшавікоў *яна выглядала куды жудасней*".

М. Шкялёнак, насуперак праўдзе, нават прызнаў супрацьпраўным прыход Чырвонай Арміі ў верасні 1939 г. у Заходнюю Беларусь, таму што ў выніку паражэння польскіх войск у баях з нямецкім вермахтам і так ужо яе народ стаў вольным. "Рэшты польскіх паліцыянтаў уцякалі самі, дык навошта тут была патрэбна чырвоная дапамога?" — звярнуўся ён з такім пытаннем да аўдыторыі.

Зыходзячы з усяго сказанага М. Шкялёнкам у рэфераце, робіцца выснова, што навязаныя Масквой беларускаму народу пастановы і дагаворы не адлюстроўваюць яго волю, што Масква не мае "права дзеяць ад імя беларускага народа".

У дыскусіі па рэфераце М. Шкялёнка выступілі толькі два чалавекі і, зразумела, цалкам пагадзіліся з ім. Першым узяў слова былы ўдзельнік Першага Усебеларускага Кангрэса, дэлегат ад беларусаў Латвіі генерал Кастусь Езавітаў[2]. Пачаў гаворку з росту нацыянальнай самасвядомасці беларусаў паміж гэтымі двума Кангрэсамі, спаслаўшыся на такую акалічнасць: у час правядзення першага з іх "большасць дэлегатаў... прамаўляла па-расейску, — сягоння ўсе без вынятку прамаўляюць па-беларуску". Выказаў упэўненасць, што "ў сучасны момант ужо цалкам выкрышталізавалася адзіная думка ўсіх беларусаў, што Беларусь павінна быць вольнай незалежнай дзяржавай і ніякія раней заключаныя і новыя дагаворы не зломяць волі народа".

Ніякага палажэння з рэферата М. Шкялёнка не паставіў пад крытыку і другі выступоўца ў час дыскусіі намеснік БЦР па Вілейскай акрузе доктар Язэп Малецкі. У некаторых жа месцах яго нападкі на Маскву і Польшчу былі нават больш рэзкімі. "Не толькі зараз, — гаварыў ён, — шкодзіць нам Масква, яна шкодзіла нам заўсёды, на працягу ўсёй гісторыі... Ніколі маскоўскі ўрад не быў прыяцелем Беларусі. Таксама не была прыяцелем Беларусі і Польшча. Гэтыя варожыя нам дзяржавы падзялілі нашую зямлю дваццаць гадоў таму назад. І зараз палякі лічаць, што гэты трактат быў справядлівы..."

З другім рэфератам, які насіў назву "Аб канчальным разрыве Беларусі з Масквою і аб уневажненні маскоўскага голасу ў беларускіх справах" выступіў сябра БЦР Аўген Калубовіч. Гэта быў чалавек незвычайнага і складанага лёсу. Ужо адразу пасля заканчэння ў 1930 г. Бабчынскага тэхнікума (Хойніцкі раён) яго арыштоўваюць за ўдзел у тайнай арганізацыі альтруістаў, зняволяваюць на тры гады ў адзін з канцэнтрацыйных лагераў Далёкага Усходу. Пасля адбыцця тэрміну пакарання працаваў настаўнікам, кансультантам-метадыстам у апараце Народнага камісарыята асветы БССР і закончыў Мінскі педагагічны інстытут. У час акупацыі ўзначальваў Беларускае культурнае згуртаванне, быў сябрам Беларускай Рады Даверу.

Ужо па падзагалоўках рэферата — "Адказнасць моманту", "БССР — маскоўская фікцыя дзяржаўнасці", "Беларусь — калонія Масквы", "Бальшавіцкія абяцанкі, а рэальнасць", "Нішчэнне сялянства, работніцтва і інтэлігенцыі", "Разгром беларускае культуры", "Разбурэнне цэркваў і нішчэнне духавенства" — можна ўявіць, якіх антыбальшавіцкіх і антымаскоўскіх пазіцый прытрымліваўся яго аўтар. Асабліва гэта назіраецца, калі ён вядзе размову пра першыя гады існавання савецкай Беларусі, якая, сцвярджаецца, "паўстала ў выніку маскоўскае акупацыі нашага краю і гвалтоўнага далучэння яе да Савецкага Саюза. Як тая парабчанка бальшавіцкае Масквы, яна была ўтвораная на касцях і крыві зруйнаванае бальшавікамі незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі".

Сваё стаўленне да БССР як маскоўскай фікцыі дзяржаўнасці А. Калубовіч тлумачыць

*[2]Актыўны ўдзельнік беларускага нацыянальна-патрыятычнага руху ў міжваеннай Латвіі. Узначальваў Люцынскую дзяржаўную беларускую гімназію, прыцягваўся да адказнасці паводле сфабрыкаванага латышскімі судовымі органамі "Беларускага судовага працэсу", быў абраны за старшыню першай палітычнай арганізацыі латышскіх беларусаў "Таварыства беларусаў-выбаршчыкаў", рэдагаваў штомесячнік "Беларуская школа ў Латвіі", выдаваў газету "Голас Беларуса".*

нерэальнасцю артыкулаў Канстытуцыі БССР аб яе поўных суверэнных правах (арт. 13), свабодным выхадзе з СССР (арт. 15). Для яго "СССР з нацыянальнага гледзішча... гэта хітра замаскаваная, збальшавізаваная і зсаветызаваная былая Расейская імперыя..." Міфічнасць дзяржаўнай незалежнасці БССР ён бачыць і ў такіх яе канстытуцыйных палажэннях: "Савет Народных Камісараў БССР выдае пастановы і распараджэнні на аснове і ў выкананне дзеючых законаў СССР" (арт. 14); "Пракурор БССР і абласныя пракуроры прызначаюцца пракурорам СССР" (арт. 90), а таксама ў адсутнасці такіх важных "наркаматаў, як: абароны, замежных спраў, замежнага гандлю, шляхоў зносін...", аднясенні такіх наркаматаў, як земляробства, фінансаў, гандлю, унутраных спраў, дзяржаўнай бяспекі, юстыцыі і інш. да саюзна-рэспубліканскіх. Ён сцвярджаў, што дашчэнту падрываўся нацыянальны суверэнітэт Беларусі, як і іншых саюзных рэспублік, умяшаннем у яе дзяржаўныя справы Палітбюро ЦК УКП(б), ЦК КП(б)Б. "Для ажыццяўлення сваёй кіраўніча-партыйнай волі і лініі ўва ўсіх галінах дзяржаўнай дзейнасці (палітычнай, гаспадарчай, прафесійнай, асветнай і г. д.) партыйныя органы апіраліся на створаны імі вельмі шырокі апарат ГПУ—НКВД і спецаддзелы пры ўстановах. НКВД СССР праз свае рэспубліканскія, абласныя і г. п. аддзелы праводзіў кантроль за дзейнасцю ўсіх дзяржаўных органаў, установаў і прадпрыемстваў ды — іхнімі працаўнікамі. Перад органамі НКВД дрыжэлі і старшыня Вярхоўнай Рады БССР і старшыня гэтак зв. беларускага ўрада і народныя камісары, не кажучы ўжо аб кіраўніках трэстаў і больш дробных установаў. Праз органы НКВД бальшавікі сістэмаю арыштаў маглі замяніць і замянялі непрыдатных для іх кіраўнікоў і супрацоўнікаў дзяржаўных органаў. Такім чынам сама дзяржаўная структура БССР, а тым больш фактычны стан рэчаў у дзяржаўным кіраванні ёю, сведчаць аб адсутнасці якой-колечы незалежнасці і суверэннасці БССР". Прыдрацца да сказанага, думаецца, не вельмі проста, бо больш магутнай сілы, як створаны стараннямі партыі бальшавікоў НКВД СССР, не існавала ва ўсёй краіне.

Шмат з'едлівых дакораў выказаў А. Калубовіч Маскве за яе неаднаразовае перакройванне дзяржаўных межаў Беларусі, надзяляючы яе тэрыторыяй Літву і Польшчу. Сказаўшы такое, ён з наступнымі пытаннямі звярнуўся да залы: "Калі б БССР была не фікцыяй беларускай дзяржавы, дык ці ж магла Масква так бесцырымонна распараджацца ейнай тэрыторыяй? Дзе ў цэлай гісторыі хоць бы аднае дзяржавы свету можна знайсці падобны прыклад?"

Не забыўся А. Калубовіч вызначыць прычыны і вынікі адыходу бальшавікоў ад раней выпрацаванай імі нацыянальнай палітыкі і паказаць, да чаго гэта прывяло беларускі народ. З волі партыйнага Цэнтра ў Крамлі "быў зняты са становішча старшыня ўрада БССР у 1927 г. выдатны беларускі дзеяч Язэп Адамовіч, які праз увесь час НЭПу часта супрацьставіўся Маскве ды ейнай варожай палітыцы ў дачыненні да Беларусі і беларускага народа. За тым жа ў 1929 г. са становішча камісара асветы БССР быў звольнены А. Баліцкі, са становішча камісара земляробства — З. Прышчэпаў, са становішча сакратара Беларускай Акадэміі Навук — ведамы беларускі дзеяч, акадэмік В. Ластоўскі, за ім — заснавальнік Інстытута Беларускай Культуры і віцэ-прэзідэнт Акадэміі Навук прафесар С. Некрашэвіч і г. д.". Праз год ужо на змену звальненням прыйшлі арышты і выгнанне на чужыну. Сярод тых, каго напаткаў такі несправядлівы лёс, А. Калубовіч назваў былога старшыню БНР А. Цвікевіча, які па просьбе саміх жа бальшавікоў вярнуўся з эміграцыі на Беларусь; першага рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта У. Пічэту; першага прэзідэнта Беларускай акадэміі навук У. Ігнатоўскага, які, каб не быць арыштаваным, пакончыў жыццё самагубствам. Прыгадаў ён арышт у 1938 г. "усіх былых беларускіх паслоў у польскі сойм з Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады і Змагання, якія бальшавікамі былі хітра заманеныя на працу ў Беларусь. На чале з Рак-Міхайлоўскім, Мятлою, Гаўрылікам, Дварчанінам, Валынцом, Кахановічам ды іншымі выдатнымі беларускімі дзеячамі Заходняй Беларусі было арыштавана 196 асоб".

Несумненна, было што крытычнага сказаць А. Калубовічу на адрас прымусова праведзенай па загадзе Масквы калектывізацыі, у выніку якой для сялян "варочалася зноў чорная пара старога прыгону... Сярод беларускага сялянства гэта варожая і неадпаведная ягонаму нутру "рэформа" выклікала моцны адпор, на што Масква адказала тэрорам. Звыш 1500000 беларускіх сялян, цэлымі сем'ямі са старымі, дзяўчатамі і дзецьмі, былі арыштаваны, адарваны ад родных хат і вывезены на галодную смерць у тайгі і тундры халоднага Сібіру ды гарачыя пустыні Казахстана. (...) Масква метадам штыка і бізуна разбурыла да рэшты сялянскую гаспадарку Беларусі і на касцях 1500000 загубленых ёю беларускіх сялян збудавала тысячы прыгонных гаспадарак — г. зв. калгасаў". А. Калубовіч выказаў перакананне, калі б БССР была суверэннай дзяржавай, яна так не нішчыла б сваю гаспадарку і народ.

Як чалавек з адпаведнай адукацыяй, А. Калубовіч не мог не спыніцца на цяжкім, невыносным становішчы беларускай культуры, у які яна прыйшла ў выніку дапушчаных хібаў у правядзенні бальшавікамі нацыянальнай палітыкі. За круты паварот ў плане дэфармацыі нацыянальных асноў духоўнага жыцця беларусаў ён палічыў высунутае ў 1930 г. І. Сталіным на XVI з'ездзе УКП(б) палажэнне: "...трэба даць нацыянальным культурам... разгарнуцца... каб стварыць умовы для зліцця іх у адну агульную культуру з адной агульнай мовай". Практычным адказам на гэтую партыйную ўстаноўку А. Калубовіч назваў прынятую ў 1933 г. урадам БССР пастанову аб рэформе беларускага правапісу, мэтай якой з'яўлялася "схіліць развіццё нашай мовы ў бок набліжэння яе да мовы расейскае".

Нікольк не сумняваецца аўтар рэферата, што толькі па ўказцы Масквы спынілі сваё існаванне літаратурныя згуртаванні "Маладняк", "Узвышша" і "Полымя", пачаліся арышты беларускіх пісьменнікаў (розныя меры пакарання панеслі каля 90 чалавек), масавае спальванне кніг і часопісаў (згарэла 12 млн. экз.), знішчэнне твораў выяўленчага мастацтва, а разам з гэтым і яго найлепшых прадстаўнікоў — Э. Гадлеўскага, Ю. Чарняўскага, П. Даркевіча, Г. Змудзінскага і інш. Бюсту класіка беларускай паэзіі Максіма Багдановіча лепшага месца не знайшлі за падвал Мінскага гістарычнага музея. Да смерці замардавалі найвыдатнага кампазітара, аўтара беларускага нацыянальнага гімна У. Тэраўскага. Быў зняты з паказу нават спектакль "Кастусь Каліноўскі", распушчана Беларускае краязнаўчае таварыства і забаронены яго друкаваны орган "Наш край". Агульны лік арыштаваных вучоных перасягнуў за 50. "Заместа іх Беларускую Акадэмію Навук і вышэйшыя школы, — адзначалася ў рэфераце, — напаўнялі не беларусамі і камуністамі, пераважна без ніякіх навуковых ведаў і ступеняў. Нават сама шыльда "Беларуская Акадэмія Навук" была адгэтуль заменена на "Акадэмія Навук БССР", падобна, як і "Беларускае Дзяржаўнае выдавецтва — на "Дзяржаўнае Выдавецтва пры СНК БССР". У школах, дзе выкладанне было пераведзена на расейскую мову... былі забаронены да вывучэння гісторыя і гэаграфія Беларусі". Тут, між іншым, А. Калубовіч не сказаў нічога такога, што не адпавядала б рэчаіснасці.

Не схлусіў ён і тады, калі выстаўляў абвінавачванне дзяржаве і партыі бальшавікоў за іх дзейнасць супраць рэлігіі: "У працягу колькіх гадоў пасля НЭПу гвалтоўна зачынілі амаль усе 1600 царкоўных прыходаў, арыштаваўшы, замарыўшы голадам, турмою ды выгнаннем 8 епіскапаў і каля 1400 святароў". Па загадзе бальшавікоў у 1930 г. былі разбураны крушні Барысаглебскага манастыра ў Полацку з фрэскамі 1222 г., а на яго месцы збудавалі стайню; у 1936 г. віцебскі камуніст Эстрын узарваў старую царкву св. Юрыя і Уваскрасенска-Рынкавую царкву; у 1937 г. камсамолец Хайкін учыніў тое ж самае пад Талочынам з беларускім гістарычным помнікам XII ст. "Барысаў камень". Будынак НКУСа ў Магілёве ўзвялі на месцы разбуранага хрысціянскага сабора святога Язэпа, а святы для беларусаў абраз Смаленскае Божае Маці Адыгітрыі быў прададзены ў ЗША. І з падобнага роду фактаў А. Калубовіч таксама робіць выснову аб міфічнасці дзяржаўнасці БССР, бо самі ж беларусы не разбуралі б сваю нацыянальную культуру і не нішчылі б яе найвыдатнейшых творцаў.

Ніводная частка рэферата не мае такой антыбальшавіцкай, антымаскоўскай накіраванасці, як заключная. Была выказана, пад бурныя воплескі, прапанова "заявіць урадам і народам усім краін, што мы — беларусы — канчальна парываем усякія сувязі з Масквою... Для гэтага канчальнага разрыву з Масквою клічуць нас косці загубленых ёю 1800000 найлепшых сыноў нашага народа... Гэтага патрабуюць ад нас нават каменні ад разбураных бальшавікамі нашых святыняў і помнікаў. Няхай жа памяць крывавага бальшавіцкага панавання ў нашым краі зарасце чартапалохам і крапівою!"

Пасля зачытання А. Калубовічам рэферата выступілі тры чалавекі, але толькі першы з іх— старшыня горада Мінска А. Комар — цалкам прытрымліваўся зместу гэтага дакумента, не выйшаў за рамкі дыскусіі. Якіх-небудзь разыходжанняў з рэфератам ён не выказаў. Паасобныя палажэнні яго нават узмацніў, што пацвярджаецца наступнымі фразамі: "Ніводнаму народу не даўся так у знакі бальшавізм, як нам, беларусам. Бальшавікі... імкнуліся задушыць нашу нацыянальную сведамасць... Нацыянальным па шыльдзе быў савецкі беларускі ўрад, а па зместу: Панамарэнкі, Коганы, Гайсіны, Левіны і г. д. (...) Беларусь пад Саветамі была асуджана на знішчэнне... З бальшавізмам у нас няма нічога супольнага... бальшавікам мы не далі ніякіх паўнамоцтваў быць нашымі прадстаўнікамі... Іх Савецкая Беларусь — толькі фальшыўка на шыльдзе, а па сутнасці — няволя для нашага народа. Мы парываем з імі назаўсёды, бо толькі без бальшавікоў Беларусь можа жыць вольнай".

Сказанага падчас выступленняў на Кангрэсе было больш чым дастаткова, каб разлічваць, што прысутныя на ім без усялякіх ваганняў прымуць самую рэзкую па тоне рэзалюцыю (зачытаў яе генерал-маёр і кіраўнік аддзела Вайсковых спраў БЦР К. Езавітаў). Рэзалюцыя і сапраўды склалася надзвычай рэзкай, бескампраміснай. У ёй патрабавалася пацвердзіць гістарычную пастанову Рады БНР ад 25 сакавіка 1918 г. "аб канчальным разрыве Беларусі з Бальшавіцкаю Масквою і расейскай дзяржавай у усіх яе формах" і той факт, "што Беларускі Народ ніколі не прызнаваў, не прызнае цяпер і ніколі не прызнае ў будучыні за форму сваёй беларускай дзяржаўнасці накіненыя яму маскоўскімі захопнікамі формы БССР". Пра ўсё гэта прапаноўвалася паведаміць урадам і народам свету. Заяўлялася, што не маюць праўнай сілы раней прынятыя ці тыя, што яшчэ будуць прыняты пастановы ўрадаў СССР, Польшчы альбо іншых дзяржаў датычна тэрыторыі Беларусі. Рэзалюцыя заканчвалася такімі словамі: "Адзіным праўным прадстаўніком Беларускага Народа і ягонага краю з'яўляюцца сягоння Беларуская Цэнтральная Рада з Прэзідэнтам Радаславам Астроўскім на чале". Яна была аднагалосна прынята, пасля чаго з кароткімі заключнымі прамовамі выступілі Прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі і Прэзідэнт Кангрэса Я. Кіпель. Яшчэ раз было падкрэслена, асабліва ў выступленні апошняга, што Кангрэс выступіў супроць маскоўскага і польскага панавання на Беларусі ад імя ўсяго народа, а не толькі дэлегатаў, выказана ўпэўненасць, што "ён будзе змагацца са зброяй у руках супроць сваіх векавечных ворагаў... Што б ні здарылася на свеце, але ў нашай барацьбе з бальшавізмам мы пераможам і будзем вольнымі!"

Пасля гэтага прагучаў традыцыйны воклiч "Жыве Беларусь", і дэлегаты Кангрэса раз'ехаліся дамоў. Выконваць яго рашэнні не давялося, бо надышлі апошнія для акупацыі дні. На парадку дня амаль кожнага з дэлегатаў першым пытаннем стаяла эвакуацыя. Ужыў слова "амаль" зусім невыпадкова, бо з гэтага правіла рабіліся і выключэнні. Некаторыя ўдзельнікі Другога Усебеларускага Кангрэса настолькі былі ўпэўнены ў вялікай карысці сваёй дзейнасці для Бацькаўшчыны, што нават не палічылі патрэбным пакідаць яе напярэдадні прыходу сюды Чырвонай Арміі. Такі варыянт, у прыватнасці, выбраў для сябе вядомы змагар за нацыянальную ідэю, дэпутат у польскім сойме ад Беларускага пасольскага клуба, старшыня Беларускага клуба ў Вільні, выдавец друкаванага органа Беларускага сялянскага саюза "Сялянская ніва" Фабіян Ярэміч. Але яго тут жа арыштавалі.

Некаторыя з удзельнікаў Кангрэса зусім ненадоўга затрымаліся ў эміграцыі, бо выказалі пажаданне ці былі тайна закінуты на тэрыторыю Беларусі дзеля барацьбы з яе бальшавіцкім рэжымам. Гэта быў зусім памылковы, крайне неразважлівы крок, які вёў да далейшага братняга кровапраліцця. Беларускі народ, спазнаўшы столькі гора ад фашысцкай няволі і ведаючы, што ад апошняй яго выратаваў бальшавіцкі рэжым, не мог падтрымаць любога, хто збіраўся ваяваць з ім пасля выгнання ворага. Так яно і адбылося на практыцы.

У збройным змаганні з бальшавіцкім рэжымам на Беларусі загінулі ці былі закатаваны пасля захопу ў палон колішні кіраўнік хлапцоўскага аддзела Саюза Беларускай моладзі М. Ганько, працаўнік Беларускай Народнай Самапомачы Гінько, доктар філасофіі, паэт і публіцыст Ф. Грышкевіч (у 1945 г. скончыў жыццё самагубствам, каб унікнуць катавання ад бальшавікоў), сябра прэзідыума Рады БНР, генерал-маёр і кіраўнік аддзела Вайсковых спраў БЦР К. Езавітаў (павешаны ў 1946 г.), дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, навуковец, загадчык школьнага аддзела Мінскай гарадской управы І. Жарскі (павешаны ў 1945 г.), працаўнік Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры А. Клімовіч, навуковы працаўнік і выдавец Я. Найдзюк, настаўнік, працаўнік беларускай адміністрацыі ў 1942—1944 гг. У. Паўльскі (павешаны ў 1944 г.), старшыня ЦК Беларускай незалежніцкай партыі У. Родзька, камандуючы Слуцкай дывізіяй у час Слуцкага паўстання супраць бальшавікоў у 1920 г., намеснік БЦР на Ганцавіцкую акругу Сокал-Кутылоўскі, віцэ-прэзідэнт БЦР, сябра Беларускага фронту і Беларускага нацыянальнага цэнтра на эміграцыі М. Шкялёнак (расстраляны ў 1947г.), сябра Беларускай народнай самапомачы, маёр беларускіх збройных сіл на эміграцыі К. Якуцэвіч (павешаны ў 1945 г. у Навагрудку), удзельнік Першага Усебеларускага Кангрэса, пасол ад беларускага народа ў польскі Сойм Ф. Ярэміч (павешаны ў 1944 г.).

Азнаямленне са зместам прамоў, што прагучалі на Другім Усебеларускім Кангрэсе, паказвае, што яму зусім не быў уласцівы антырускі характар. Выступоўцы практычна не карысталіся словамі "расейцы" ці "рускія". Ва ўсіх грахах яны абвінавачвалі імперскую, бальшавіцкую Маскву, якая з'яўлялася для іх увасабленнем таго велізарнага гора, якое было прычынена Беларусі ў час войнаў з Маскоўскай дзяржавай, за перыяд знаходжання першай у складзе Расійскай імперыі і СССР. У апошнім выпадку яны напрамую клянуць сталінскі, бальшавіцкі рэжым.

Устанаўліваецца і такая заканамернасць: адсутнасць у прамовах выступоўцаў дыфірамбаў на адрас фюрэра, вялікіх спадзяванняў на Германію ў дасягненні беларускім народам дзяржаўнай суверэннасці. Праўда, прывітальную тэлеграму А. Гітлеру Другі Усебеларускі Кангрэс усё ж паслаў, у якой запэўнілі яго, "што Беларускі Народ будзе нязломна змагацца побач з нямецкім жаўнерам супроць супольнага нашага ворага — бальшавізму". Склаў яе ў час правядзення Кангрэса сам Прэзідэнт БЦР Р. Астроўскі пасля таго, як выслухаў дакоры перакладчыка Генеральнага камісарыята Беларусі Сівіцы, які займаў месца на балконе разам з прадстаўнікамі нямецкіх акупацыйных уладаў, за нявысылку такога роду ліста на імя А. Гітлера. Відаць, актыўныя носьбіты беларускай незалежніцкай ідэі на практыцы пераканаліся, што паміж беларускім і нямецкім поглядамі на данае лёсавызначальнае пытанне ніяк нельга ставіць знака роўнасці. Вельмі ўжо позна — калі практычна для ўсіх вялікіх палітыкаў не з'яўлялася сакрэтам, што вайна закончыцца паражэннем Германіі, — акупанты далі згоду беларусам на закладку падмурка сваёй дзяржаўнай незалежнасці, стварэнне ўласнага войска. Таму трэба думаць, што зусім невыпадкова свой рэферат А. Калубовіч пачаў з такіх слоў: "Наш беларускі народ, як у перыяд першай усясветнай вайны і расейскіх рэвалюцыяў 1917 г., цяпер ізноў перажывае адказны момант у сваім жыцці... Якраз цяпер гісторыя паставіла перад намі найпаважнейшыя пытанні нашага жыцця, на якія вымагае безадкладнага адказу. Таму цяпер ад нас саміх залежыць у вялікшай меры вырашэнне нашага лёсу".

Прыкладна такое прагучала і з вуснаў старшыні горада Мінска А. Комара, які першым выступіў у дыскусіі па рэфераце А. Калубовіча: "Магутная нямецкая армія вызваліла нас ад савецка-бальшавіцкай няволі, а зараз яна дае нам усе магчымасці праз барацьбу з агульным ворагам прыйсці да вольнага жыцця ў вольнай сям'і еўрапейскіх народаў. Толькі гэты шлях прынясе нам шчаслівае жыццё, але мы павінны здабыць яго нашымі рукамі і нашай зброяй". Выказвацца ж крытычна на адрас нямецкіх акупантаў выступоўцы не адважваліся, бо для гэтага яшчэ не надышоў час. У той сітуацыі абачлівасць была зусім не лішняя.

У чытача, натуральна, могуць быць самыя розныя погляды на месца Другога Усебеларускага Кангрэса ў нашай нацыянальнай гісторыі. Але замоўчваць ці вельмі куртата пісаць пра яго з якіхсьці ідэалагічных меркаванняў у навуковых працах, падручніках зусім не апраўдана. З гісторыі нічога нельга выкідаць. У яе трэба толькі вучыцца, каб менш рабіць памылак.

З пункту гледжання выніковасці Другі Усебеларускі Кангрэс быў ні чым іншым, як сцёбаннем пугай па вадзе. Кангрэс ні ў якім выпадку нельга называць "усебеларускім", хаця і з'ехалася на яго 1039 дэлегатаў, што прыкладна ў тры-чатыры разы больш, чым дэпутатаў у Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь папярэдняга ці цяперашняга склікання. А нельга назваць "усебеларускім" таму, што на ім не прысутнічалі тыя, хто са зброяй у руках змагаўся супраць фашысцкага акупацыйнага рэжыму, хто жыў на тэрыторыі, якая знаходзілася пад юрысдыкцыяй партызанскага камандавання. Падаецца зусім не слушным, каб такое важнае пытанне, як дзяржаўная незалежнасць, уздымаць Кангрэсу ў самы неадпаведны для гэтага час, калі вось-вось у Мінск павінна была ўступіць Чырвоная Армія, калі просты народ больш хвалявала біялагічнае выжыванне, чым усталяванне якіх-небудзь форм нацыянальнага суверэнітэту. Але ж нельга цалкам пагадзіцца і з той ацэнкай, якую даў Кангрэсу Лаўрэнцій Цанава: "Гэтая антысавецкая акцыя гітлераўскага салдафона і дзяржымордзы Готберга таксама загадзя асуджана на правал беларускім народам, які прагнуў поўнага аднаўлення савецкай улады і праяўляў непахісную волю разбурыць усялякія антысавецкія планы, накраваныя на рэстаўрацыю капіталістычных парадкаў і буржуазна-памешчыцкага прыгнёту". Чаго-чаго, а "поўнага аднаўлення савецкай улады" з яе жорсткім бальшавіцкім таталітарным рэжымам ён не прагнуў. Ён прагнуў толькі хутчэйшага вызвалення ад фашысцкай няволі і хацеў, каб у краіне ўсталяваліся новыя парадкі, зусім непадобныя на даваенныя.

***З 26 па 31 жніўня ў старадаўнім горадзе Ноўгарадзе (Расія) праходзіў YI Міжнародны кангрэс славянскай археалогіі. Папярэдні, пяты, адбыўся ў 1985 годзе ў Кіеве, а першы — у Варшаве ў 1965 г., калі была заснавана Міжнародная унія славянскай археалогіі (МУСА). Адзінаццацігадовы перапынак у арганізацыі міжнародных конкурсаў тлумачыцца тым, што па шэрагу палітычных і эканамічных прычын дзейнасць МУСА на некалькі гадоў амаль спынілася. І толькі ў лістападзе 1994 года выканаўчы камітэт і пастаянная рада МУСА прынялі рашэнне аб правядзенні чарговага кангрэса. Фінансавымі фундатарамі мерапрыемства выступілі некаторыя навуковыя фонды, Міністэрства навукі і тэхнічнай палітыкі Расійскай Федэрацыі і Міжнародная праграма “Вышэйшая адукацыя” Інстытута “Адкрытае грамадства”.***

# ЯКІЯ ВЫ, СТАРАЖЫТНЫЯ СЛАВЯНЕ?

## НА Y1 МІЖНАРОДНЫМ КАНГРЭСЕ СЛАВЯНСКАЙ АРХЕАЛОГІІ

Беларуская дэлегацыя налічвала каля 30 чалавек (у асноўным супрацоўнікаў археалагічных аддзелаў Інстытута гісторыі АНБ) і была адной з самых шматлікіх. Яшчэ каля дзесятка навукоўцаў, якія падалі свае заяўкі на ўдзел у працы кангрэса, не змаглі прыехаць па розных аб’ектыўных прычынах. На гэтым навуковым форуме былі прадстаўлены археолагі амаль усіх славянскіх краін (за выключэннем Босніі і Харватыі), а таксама Германіі, Аўстрыі, Румыніі, Літвы, Венгрыі, Швецыі, Нідэрландаў, Бельгіі, Нарвегіі, Эстоніі. Рабочымі мовамі пасяджэнняў лічыліся ўсе славянскія, хаця некаторыя даклады былі прачытаны па-нямецку ці па-французску. Усяго было заслухана 270 дакладаў.

Удзельнікам кангрэса прыслаў сваю прывітальную тэлеграму Барыс Ельцын. На адкрыцці кангрэса выступілі мэр горада і рэктар нядаўна адкрытага Ноўгарадскага універсітэта імя Яраслава Мудрага. Было падкрэслена, што Ноўгарад з’яўляецца радзімай усходнеславянскіх дэмакратычных і рэспубліканскіх традыцый. Тут дарэчы згадаць, што ў XIY—XY стагоддзях Ноўгарадская рэспубліка знаходзілася пад моцным уплывам Вялікага княства Літоўскага, а ў апошні перыяд сваёй незалежнасці нават шукала ў яго абароны ад захопніцкіх памкненняў маскоўскага князя Івана III.

Сістэматычнае даследаванне сярэдневечных напластаванняў Ноўгарада вядзецца з 1932 года. Гэтыя раскопкі дазволілі здабыць велізарны археалагічны матэрыял, у тым ліку выявіць сотні берасцяных грамат. На падставе аналізу гэтых помнікаў пісьменства мовазнаўцы прыйшлі да высновы, што ноўгарадская гаворка моцна адрознівалася ад літаратурнай мовы Кіеўскай Русі, і калі б не страта незалежнасці ў 1478 годзе, то ноўгарадцы сталі б чацвёртым усходнеславянскім народам.

На першым пленарным пасяджэнні выступілі такія слынныя вучоныя з Масквы, як акадэмік Валянцін Янін — пра асноўныя вынікі археалагічнага вывучэння Ноўгарада Вялікага, і прафесар Валянцін Сядоў — пра этнагенез славян у старажытнасці і раннім сярэднявеччы (у нашай краіне В.Сядоў найбольш вядомы як стваральнік канцэпцыі пра вырашальную ролю балцкага субстрату ў складванні этнавызначальных рысаў беларусаў).

Асноўная ж праца кангрэса разгарнулася на 13 секцыях, якія былі прысвечаны самым розным праблемам: этнагенезу славян у антычныя і раннесярэднявечныя часы, археалогіі раннесярэднявечнага горада, узаемаадносінам горада і яго акругі, сярэднявечным плямёнам і народнасцям, этнакультурным і гандлёвым кантактам, дахрысціянскай духоўнай культуры, архітэктуры, рамяству, нумізматыцы і сфрагістыцы, і г.д. Беларускія навукоўцы прымалі чынны ўдзел у працы практычна ўсіх секцый. Так, даклад Валянціны Вяргей быў прысвечаны паселішчам пражскай культуры (самай ранняй з несумненна славянскіх) на Беларускім Палессі. Гэтыя паселішчы датуюцца Y—YII стст. На думку Алеся Мядзведзева, які рабіў даклад пра час прыходу славян на тэрыторыю Беларусі, бясспрэчна славянская культура з’яўляецца на большай частцы абшараў нашай дзяржавы досыць позна, у IX стагоддзі нашай эры. Рассяленне славян адбывалася не толькі з паўднёвага захаду, але і з поўначы. Адбывалася ўзаемадзеянне прышэльцаў-славян з мясцовымі балцкімі плямёнамі. Антраполагі на падставе назіранняў за генафондам насельніцтва сцвярджаюць, што на працягу апошніх 3,5 тысячы гадоў на Беларусі не было змены насельніцтва. Але тым не менш адбылася змена этнасу. Такая сітуацыя магчымая толькі тады, калі колькасць прыхадняў не перавышае 10 працэнтаў ад мясцовага насельніцтва (тады іх сляды не захоўваюцца ў генафондзе). Панаванне колькасна нешматлікіх славян над балтамі магло адбывацца толькі пры ўмове лепшай арганізаванасці (г.зн. складвання дзяржаўнай структуры ў выглядзе княстваў і гарадоў) і перавагі ў вайсковай сіле. Славянскія гарады панавалі над іншаэтнічным насельніцтвам і садзейнічалі славянізацыі балтаў. Гэта вяло да захавання ва ўсіх сферах матэрыяльнай і духоўнай культуры многіх рысаў карэннага насельніцтва. На аснове сімбіёзу славянскай і балцкай культур і склаліся беларусы.

У дакладзе Андрэя Мяцельскага аналізавалася праблема ўзнікнення і развіцця пасажскіх гарадоў Смаленскай зямлі — Прапойска (Слаўгарада), Крычава, Мсціслава і інш. У XII — сярэдзіне XIII ст. смаленскія князі праводзілі мэтанакіраваную горадабудаўнічую палітыку, спрыяючы фарміраванню



сеткі новых гарадоў — Мсціслава, Расціслаўля, Васільева, магчыма, Зароя. У XII ст. рысы гарадскога цэнтра набыло і гарадзішча каля в.Горы Горацкага раёна. Гарадскія цэнтры размяшчаліся ў самых населеных і плацежаздольных мясцовасцях.

Даклады Алы Квяткоўскай і Таццяны Каробушкінай з розных пазіцый закраналі пытанне этнічнай прыналежнасці насельніцтва сярэдняга Пабужжа ў XI—XIII стагоддзях. Калі Т.Каробушкіна лічыць курганныя магільнікі і паселішчы гэтай тэрыторыі выключна славянскімі, што належалі дрыгавічам і дзе-нідзе валынянам, то А. Квяткоўская прытрымліваецца процілеглых поглядаў. На яе думку, каменныя курганы сярэдняга Пабужжа і верхняга Панямоння належалі яцвягам. Асобныя славянскія рэчы ў гэтых курганоў даследчыца тлумачыць гандлёвымі і культурнымі сувязямі. Згодна А. Квяткоўскай, пахавальныя помнікі славян у тым рэгіёне нешматлікія і зафіксаваны толькі паблізу гарадоў — асяродкаў славянскай экспансіі ў зямлі яцвягаў.

Археолаг з Гародні Сяргей Піваварчык займаецца вывучэннем гарадзішчаў X—XIII стагоддзяў у Беларускім Панямонні. Вынікі сваіх даследаванняў ён і паказаў у дакладзе. Алег Іоў, які ў апошнія гады выявіў сляды знаходжання скандынаваў-вікінгаў на Заходнім Палессі, разгледзеў пытанне пра існаванне ў IX—XI стагоддзях Прыпяцка-Нёманскага шляху. Антраполаг Інеса Салівон асвятліла этна-гістарычныя аспекты складвання фізічнага тыпу беларусаў.

Даклад Алеся Краўцэвіча быў звязаны са складанай праблемай вывучэння балта-славянскіх кантактаў у Панямонні і ўтварэння Вялікага княства Літоўскага. Даследчык ставіць сваёй мэтай на аснове комплекснага аналізу як археалагічных дадзеных, так і звестак пісьмовых крыніц непрадузята вырашыць гэтае заблытанае пытанне.

Сяргей Тарасаў, які ўжо шэраг гадоў вывучае раннефеадальны Полацк, развіццё Полацкай зямлі разгледзеў у еўрапейскім геапалітычным кантэксце. Гэта дазволіла яму зрабіць выснову, што этапы развіцця Полацкай зямлі ад племяннога княжання і да фармавання паўнавартаснай дзяржаўнай структуры паўтаралі агульнаеўрапейскія. Яны былі цесна звязаны з развіццём горада, дзе канцэнтраваліся ўсе функцыі дзяржавы. С.Тарасаў дапускае, што хрышчэнне Полацкай зямлі праходзіла самастойна, праз балгарскую аўтакефальную патрыярхію.

Роля земляробства і жывёлагадоўлі ў гаспадарцы гараджан Беларусі ў X—XIII стагоддзях была разгледжана ў выступленні Юрыя Заяца. Згодна яго дадзеным, мяжа належачых гораду земляў звычайна праходзіла за 2—4 кіламетры ад гарадской рысы. Гарадскі статак буйной рагатай жывёлы складаўся пераважна з малочных кароў, а частка мяса свойскіх жывёл трапляла на стол гараджан з вёскі, як сялян. З ворыўным земляробствам была звязана толькі частка гарадскіх жыхароў. У XII—XIII стагоддзях павялічылася доля збожжа, што прывозілася з сельскай акругі. Больш чым ворыўным земляробствам тагачасныя гараджане займаліся агародніцтвам.

Лявон Калядзінскі паказаў спецыфіку развіцця матэрыяльнай культуры сярэднявечных гарадоў Беларусі. Па яго назіраннях, першапачаткова ў гэтай матэрыяльнай культуры адзначаецца візантыйскі ўплыў, які закрануў у асноўным элітарную частку грамадства. З XII стагоддзя прасочваецца паступовае нарастанне заходнееўрапейскіх навацый (найперш у абарончай справе і мураваным дойлідстве). З пачатку XIY ст. гэты працэс набірае сілу. У познім сярэднявеччы заходнееўрапейскі ўплыў ахапіў і некаторыя бакі побытавай культуры.

Эдвард Зайкоўскі закрануў асобныя бакі язычніцкіх вераванняў. У секцыі па архітэктуры і горадабудаўніцтве выступіў Алег Трусаў, які ахарактарызаваў гродзенскую архітэктурную школу XII стагоддзя. Да помнікаў дойлідства гэтай школы належаць такія мураваныя будынкі, як Ніжняя царква ў Гародні, недабудаваны Ваўкавыскі храм, гарадзенская Барысаглебская (Каложская) царква, у пэўнай меры — Прачысценская царква ў Гародні, а таксама свецкія збудаванні — двухпавярховы княжацкі хорам і абарончыя сцены ў Гародні.

На кангрэсе прысутнічала і трое нумізматаў з Беларусі — Валянцін Рабцэвіч, Шаміль Бекцінееў і Іван Сінчук.

Анатоль Седзін з Магілёва ў апошнія гады праводзіў раскопкі гарадзішча трэцяй чвэрці 1 тысячагоддзя каля в. Нікадзімава Горацкага раёна, у выніку чаго здабыты значны археалагічны матэрыял. Мяркуецца, што гарадзішча з’яўлялася адміністрацыйна-тэрытарыяльным цэнтрам значнай акругі, дзе знаходзілася сядзіба правадыра і яго дружыны. Раскопкі каля Нікадзімава выклікалі цікавасць у многіх удзельнікаў форуму.

Праблемы археалогіі Беларусі закраналіся і ў дакладах некаторых расійскіх, украінскіх, польскіх археолагаў.

Акрамя секцый, працаваў яшчэ калёквіум “Станаўленне раннесярэднявечнага горада ў Балтыйскім рэгіёне” і два “круглыя сталы”: “Методыка этнагенетычных даследаванняў” і “Станаўленне славянскіх народнасцяў”. На апошнім шэраг вучоных аргументавана крытыкавалі тэорыю пра існаванне так званай старажытнарускай народнасці.

На аб’яднаным пасяджэнні секцый сярэднявечнай культуры і духоўнай культуры даклад пра вытокі музычнай культуры Ноўгарада быў прачытаны Уладзімірам Паветкіным — мясцовым энтузіястам вывучэння гэтай тэмы, які займаецца рэстаўрацыяй сярэднявечных музычных інструментаў, знойдзеных пры раскопках. Працяг даклада быў у створаным У. Паветкіным Цэнтры музычных старажытнасцяў, дзе прысутным прадэманстравалі гучанне рэканструяваных старадаўніх гусляў, гудка, варгана, жужалкі, свісцёлкі.

Беларуская і ўкраінская дэлегацыі да кангрэса выдалі зборнікі тэзісаў сваіх дакладаў. Плануецца выданне поўных дакладаў удзельнікаў кангрэса. У час знаходжання ў Ноўгарадзе была прадстаўлена выстава літаратуры па археалогіі і гісторыі, выдадзенай у Беларусі, якую потым падарылі арганізатарам кангрэса. У заключэнне варта адзначыць, што паездка ў Ноўгарад стала магчымай дзякуючы вялікай арганізатарскай працы, праведзенай напярэдадні кіраўнікамі беларускай дэлегацыі Валянцінай Вяргей і прафесарам Георгіем Штыхавым.

**Эдвард ЗАЙКОЎСКІ**

Марцін КОЎЗКІ

# ДОЛЯ ПРАЎДЫ

Сотні ўдараў на дзень, і ўсё па твары, па твары. Ды будзь я сто разоў прэзідэнт, я б аб марцы не марыў. Гэта ж кожны паштавік можа цябе знявечыць. Але чужы бзік — ці аспрэчыш.

●

Беларусь, выглядае, заўсёды падпірала Сібір — вёскі беларускіх пасяленцаў, беларускага паходжання інтэлігенцыя. Яно і Расія нас не забывала — колькі вайскоўцаў тут асядала. Узаемасувязі? Безумоўна, але найчасцей ад нас у Сібір — вязні, а да нас з Расіі — ахоўнікі.

●

— Мяне, дырэктара, — вон, ды яшчэ знявечыў. А рабочы, што чысціць загон, — друг сардэчны.

— Не крыўдуйце, — сказаў урач, — усё ў норме, хто вы для таго зубра, а рабочы — корміць.

●

Калі балгарын кажа “так”, ён галавой паказвае нязгоду. І беларусы ці не так размаўляюць з “усенародным”. Дык што мы ведаем і што не ведаем пра апытанні і рэферэндумы?

●

— Тыран сканаў, — усклікнуў ля мёртвага Сталіна Берыя. — Цяпер дэмакратыя дасягне небывалых памераў. Калі вы, вядома, адорыце мяне яшчэ большым даверам...

●

Хто сказаў, што ў нашага старшыні не штурвал у руках, а кій? Хто сказаў, што старшыня не “сячэ”, і блукае, куды ні паверне. А ці ж не ён прыладзіў веялку да балеі з мыльнай вадой, і цяпер пускае бурбалкі на ўсю губерню. А якія прыгожыя абалонкі на мыльных гронках!

●

З Эміля Кроткага. Калі папраўдзе, дык у пісьменніка Н. сяго-таго замнога: у раманах хапае вады, а ў біяграфіі — спіртнога.




ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

*Газету рэдагавалі:*

*Х.Дунец* (1932-35)
*І.Гурскі* (1935-41)
*А.Куляшоў* (1945-46)
*М.Горцаў* (1947-49)
*П.Кавалёў* (1949-50)
*В.Вітка* (1951-57)
*М.Ткачоў* (1957-59)
*Я.Шарахоўскі* (1959-61)
*Н.Пашкевіч* (1961-69)
*Л.Прокша* (1969-72)
*Х.Жычка* (1972-76)
*А.Асіпенка* (1976-80)
*А.Жук* (1980-86)
*А.Вярцінскі* (1986-90)

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:** Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Жана ЛАШКЕВІЧ, Алесь МАРЦІНОВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ — *першы намеснік галоўнага рэдактара*, Юрась СВІРКА, Віктар ШНІП — *намеснік галоўнага рэдактара*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**

**220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**

**прыёмная рэдакцыі — 2332-461**
**намеснікі галоўнага рэдактара — 2332-525, 2331-985**
**аддзелы:**
**публіцыстыкі — 2332-525**
**пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985**
**літаратурнага жыцця — 2332-462**
**крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985**
**паэзіі і прозы — 2332-204**
**музыкі — 2332-153**
**тэатра, кіно і тэлебачання — 2332-153**
**выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 2332-462**
**навін — 2332-462**
**мастацкага афармлення — 2332-204**
**фотакарэспандэнт — 2332-462**
**бухгалтэрыя — 2682-660**

*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*

*Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 4785
Нумар падпісаны 17.10.1996 г.
Заказ 6728/Г

П 123456789101112
М 123456789101112